1991—2016

№ 1 (934) 6 студзеня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# 25 ГАДОЎ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ





**Адзін народ хадзіў 40 год — і выйшаў моцны. Рэспубліка Беларусь у 2016-м адзначыць першы юбілей абвяшчэння незалежнасці. Хоць, папраўдзе, няма пакуль рэальнай незалежнасці. Гэта былі, хутчэй, гады шляху да яе. Колькі яшчэ ісці? Невядома. Але ж у тое, што «дойдзем мы», верыць усё больш беларусаў. Пажадайма ж сабе ў Год Незалежнасці болей незалежнасці.**

**Уладзімір Някляеў**

# Год малпы



У скрусе я гляджу на мапу,
На Беларусь гляджу ў слязах…
Ніколі не было ў нас малпаў
Ані ў палях, ані ў лясах.
Былі зубры, ваўкі, мядзведзі…
Куды падзеліся яны?
Адкуль тут малпы? Ад суседзяў?
З расейскай? З польскай стараны?
Куды ні глянеш — спрэс макакі,
Што ходзяць с..камі ўпярод.
Даліся ў знакі тыя с..акі
Табе, народ, за дваццаць год!
Ва ўсіх паселі кабінетах,
Да крэслаў прыраслі сваіх:
Пузаты той, мардаты гэты —
З вусамі, што адны на ўсіх!
Гані іх прэч! У лес! У поле,
Дзе Дэпард'ё стаіць з касой!..
Каб гэты год
Стаў годам волі
І годам годнасці людской!
…………………………….
О, Беларусь! Сівыя далі…
Дай Бог счакаць тае пары,
Каб на зямлі тваёй паўсталі
Зубры! Асілкі! Ваяры!

## Ксенія Маргунская заплаціць штраф, а кантралёры — не



Завяршылася праверка па справе мінскага фітнэс-інструктара 32-гадовай Ксеніі Маргунскай, якая ўцякала ад кантралёраў праз акно тралейбуса. У дзеяннях кантралёраў склад адміністрацыйнага правапарушэння не знайшлі. А Маргунскую аштрафуюць толькі за безбілетны праезд. Па версіі міліцыянтаў, цялесныя пашкоджанні яна не атрымала.

# Раптоўна памерлі два расійскія генералы, якія арганізоўвалі далучэнне Крыма і падзеі ў Данбасе

Вайсковыя начальнікі не дажылі і да 60 гадоў.

У Расіі на працягу некалькі тыдняў ад невядомых прычын памерлі некалькі ўплывовых спецслужбістаў.

Перад Новым годам памёр намеснік начальніка штаба паветрана-дэсантных войскаў Расіі Аляксандр Шушукін. 51-гадовы генерал-маёр узначальваў дэсантны кантынгент Расіі пры анексіі Крыма, а да таго ачольваў спецаперацыю ў Асеціі. Прычынай смерці аб'явілены тромб у сэрцы.

А адразу пасля Новага года стала вядома пра смерць начальніка Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Узброеных сіл Расіі Ігара Сяргуна (**на фота**). Яму было 58 гадоў, і апошнія тры дзесяцігоддзі ён працаваў у выведцы. Падрабязная біяграфія Сергуна з'яўляецца дзяржаўнай таямніцай. ГРУ — звышсакрэтная структура.



**Ігару Сяргуну было 58 гадоў.**

Можна толькі сказаць, што менавіта Сяргун узначальваў сакрэтныя аперацыі ў Данецкай і Луганскай абласцях Украіны, у выніку чаго былі створаныя так званыя «Данецкая і Луганская Народныя Рэспублікі». Сярод палонных, узятых украінскай арміяй, былі і два байцы, што прызналіся ў сваёй службе ў ГРУ.

Прычына смерці Сергуна не называецца. Ніякіх версій пакуль не падаюць і расійскія СМІ.

**Сяргей Гезгала**

# Мітрапаліт Павел: У ЗША няма ўжо нічога хрысціянскага

У калядныя дні кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы адзначыўся шэрагам запамінальных заяваў.

Спачатку Павел накінуўся на ЗША: «Сёння Амерыка наступае на тыя ж граблі, што і Савецкі Саюз».

«Засталася толькі абгортка ад цукеркі, а самой цукеркі ўжо не існуе. Быццам бы ў іх свабода, але Бога ж там няма. Што я магу сказаць пра іх ліберальныя каштоўнасці? Разам з вадой выплюхнулі немаўля. Няма нічога ўжо там хрысціянскага. Але ж калісьці Амерыка сапраўды славілася сваім хрысціянскім светапогля-



дам», — наракаў Павел.

Варта адзначыць, што на самай справе ЗША застаюцца адной з самых рэлігійных хрысціянскіх краін. Прычым большасць вернікаў там — пратэстанты, якія вядомыя палкасцю сваёй веры.

Апроч таго, мітр. Павел заявіў, што спробы перайсці на беларускамоўныя набажэнствы не знаходзілі падтрымкі ў вернікаў і «людзі проста пераставалі хадзіць туды».

«У нас ёсць храмы такія, дзе літургія здзяйсняецца на беларускай мове. Былі спробы наогул перайсці на беларускую мову ў некаторых храмах, але яны не атрымалі свайго развіцця, бо людзі ўжо прывыклі да царкоўнаславянскай.

У нас у Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску здзяйсняецца па суботах літургія на беларускай мове, у Міхайлаўскім прыходзе ў Мінску — адзін раз на месяц, і два разы на месяц — у храме Свяціцеля Кірылы Тураўскага пры духоўнай акадэміі, — расказаў Павел. — Калі будзе пажаданне, калі будуць людзі прыходзіць — тады, вядома, мы будзем маліцца на беларускай».

**Зміцер Панкавец**

**«Негатыўнай рэакцыі на беларускую мову няма»**

Айцец Аляксандр Шрамко раз у месяц ладзіць беларускамоўныя набажэнствы ў храме Архістратыга Міхаіла ў сталічным мікараёне Сухарава.

«Людзей у храме не паменела. Ходзяць як на царкоўнаславянскія службы, гэтак і на беларускія. Ніякага негатыўнага стаўлення на беларускую мову я не бачыў. Ніхто не кажа, што ім гэта не падабаецца.

У нас беларускамоўная служба па нядзелях а 9:00, самы зручны час. Адмаўляцца ад беларускай мовы не плануем, усё ідзе нармальна.

Я бачу праблему ў тым, што людзей, якія хочуць чуць набажэнствы па-беларуску, дастаткова шмат, але не ўсе звяртаюцца непасрэдна да царкоўнага кіраўніцтва. А трэба канкрэтна браць і пісаць. У нашым выпадку хапіла аднаго ліста на гэтую тэму, каб мітрапаліт Павел даў сваё блаславенне на службу па-беларуску раз на месяц», — расказаў Шрамко.

## Сціслa

**Ніна Багінская зладзіла Новы год са сцягам**

Жыхарка Мінска ў наваголнюю ноч прайшла ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці з бел-чырвона-белым сцягам. «Я ўжо ў тым узросце, што сама вырашаю, з чым мне хадзіць», — адказвала яна спецназаўцам, якія сустракаліся на шляху.

**Пенсійны стаж — мінімум 20 гадоў**

Права на працоўную пенсію па ўзросце цяпер маюць тыя, хто меў стаж працы мінімум 15,5 года. Гэтая лічба будзе штогод павялічвацца на паўгода, пакуль не дасягне 20 гадоў.

**Брытанец справакаваў скандал каўбасой**

Кіргізія выдварыла грамадзяніна Вялікабрытаніі Майкла Макфіта, які на сваёй старонцы ў фэйсбуку назваў мясцовую нацыянальную каўбасу чучук «конскім пенісам». Яго словы сталі вядомымі, выклікалі абурэнне. Чучук — традыцыйны від кілбасы з каніны ў цюркскіх і блізкаўсходніх народаў. Кіргізы ім вельмі ганарацца.

**Новыя элементы табліцы Мендзялеева**

У перыядычную табліцу ўнеслі чатыры новыя элементы, якія носяць нумары 113, 115, 117 і 118. Яны пакуль не маюць пастаянных назваў, навукоўцы прыдумаюць іх пазней.

**Зідан узначаліў «Рэал»**

Галоўным трэнерам мадрыдскага футбольнага клуба стаў француз Зінэдзін Зідан, які раней узначальваў дублюючы склад каманды. Ён гуляў за «Рэал» у сярэдзіне 2000-х. Зідана тройчы называлі найлепшым футбалістам свету — у 1998, 2000 і 2003.

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

**Ваш заробак у 2015…**

| | | |
|---|---|---|
| Вырас | 132 | 10% |
| Паменшаў | 808 | 62% |
| Застаўся такі самы | 166 | 13% |
| Я шчэ/ужо не працую | 200 | 15% |

Прагаласавала 1306 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 30 снежня — 22 студзеня

1 Навагодні падарунак беларусам ад Пуціна
2 Тэлеканал «Расія» адцэнзураваў вядомы кадр у фільме «Брыльянтавая рука»
3 Тэст на нацыянальнасць: што вы бачыце на фота?
4 Да 7 студзеня і пасля 13-га прагназуецца выключны мароз — да мінус 25 на поўначы
5 Як Пуцін стаў Пуціным: фільм-расследаванне, як група кагэбістаў і звязаных з імі крымінальных груповак падмяла пад сябе эканоміку Расіі
6 Роўна на Новы год у Дубаі згарэў 63-павярховы гатэль
7 Аляксандр Ціхановіч: Алексіевіч? Шыла ў мяшку не схаваеш. Ролік з «псіхбальніцы»? Гэта быў піяр-ход. Наш ганарар? 30 млн рублёў
8 Яны адышлі ад нас за 2015 год
9 Антон Матолька: Беларусь — гэта Еўропа!
10 Лукашэнка падзякаваў ЗША і Еўропе за падарунак Беларусі


Не ўсё ў жыцці апошні раз!

**Афармленне падпіскі цяпер даступнае:**
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце **www.belpost.by**;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

Выпісаць «Нашу Ніву» можна ў кожным паштовым аддзяленні. Падпісацца можна з любога месяца.

Індывідуальная падпіска на 2016 (індэкс у каталозе — **63125**) — **48 000** руб./месяц

Для прадпрыемстваў на 2016 (індэкс — **631252**) — **20 000** руб./месяц

**Атрымаць газету магчыма:**
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Дар'я Кастэнка: **У смерці Улада Калеснікава вінаватая «Комсомольская правда»**



У Расіі 18-гадовы Улад Калеснікаў пакончыў з сабой, бо яго цкавалі і пераследавалі за праўкраінскую пазіцыю. Калеснікаў вёў старонкі ў інтэрнэце, дзе рэзка крытыкаваў расійскую рэальнасць і настроі ў грамадстве.

Хлопец быў дакліівы і ўразлівы, як многія падлеткі. Яго бацькі былі ў разводзе і мала займаліся сынам, аддалі на выхаванне бабе з дзедам. А дзед-пуцінец, імаверна былы кагэбіст, стаў хлопца ламаць. Дайшоў да «Комсомольскай правды», каб расказаць пра тое, які ўнук кепскі. Гэта нагадвала спробы адхрысціцца ад сваякоў, «ворагаў народа», у сталінскі час.

У выніку «Комсомолка» апублікавала артыкул, у якім прымітыўна высмейвала Улада — ягоны выгляд, вагу, факты біяграфіі, сцвярджала, што Улад быў «прадметам кпінаў як хлопцаў, так і дзяўчатак». Выбрала для ілюстрацыі самыя непрывабныя фотаздымкі.

«Пікантныя падрабязнасці, так, гніды?! — піша на адрас журналістаў «Комсомолкі» ў сваім фэйсбуку беларуска, зорка тэлеклуба «Што? Дзе? Калі?» Дар'я Кастэнка. — Ведаючы, што гаворка ідзе пра непаўналетняга (гісторыя пачалася, калі хлопцу не было 18), «Камсамолка» публікуе сапраўднае прозвішча Улада, называе горад, дзе ён жыве, і навучальную ўстанову. А каб аднакурснікі яшчэ і ведалі аб'ект ганення ў твар, публікуе яго фота. Фота падлетка, 17-гадовага хлопчыка. У інтэрнэце падобным чынам дзейнічаюць толькі тролі, ольгінская бязмозглая батва па трыццаць тысяч за пучок».

Ганіцелі Улада, журналісты расійскіх СМІ і інтэрнэт-боты, выкарыстоўвалі тыповыя прыёмы расійскіх спецслужбаў: яны распаўсюджвалі чуткі пра тое, што хлопец стаў сектантам, што ў яго гомасэксуальныя схільнасці.

«Дарослы дасведчаны чалавек, напэўна, справіўся б з такой сітуацыяй. Але, на жаль, юнага хлапчука яна можа раніць да смерці».

«Артыкул — поўны гамон, прачытайце, калі не баіцеся запэцкаць вочы. Аўтара завуць Аляксандр Грышын», — адзначае Кастэнка.

«Як вы думаеце: Аляксандр Грышын адчуў хоць кроплю віны? — пытаецца Кастэнка. — Не. Больш за тое. Ён у сваім твітары і фэйсбуку задаволена, з пачуццем выкананага абавязку напісаў: «Я пра яго пісаў летам, спрабуючы неяк уздзейнічаць. Але ўсё дарэмна».

«Сам сабою ён быў нецікавы: набор звычайных штампаў і стэрэатыпаў плюс уменне іх досыць складна кампіляваць — вось і ўся праграма», — піша пра Калеснікава «Комсомолка» ў цынічным пасмяротным артыкуле.

«З «Комсомолкой» і толькі з «Комсомолкой» пагадзіўся пагаварыць пра ўнука той самы дзед, якога цяпер у фэйсбуку, сацсетках і некаторых СМІ кляймяць прыхільнікі Улада і сам унучак, што знаходзіцца на ўтрыманні бацькі», — пісала газета ў тым сваім першым артыкуле.

«У Грышына вінаватыя ва ўсім лібералы. І ўкраінцы. І амерыканцы. Ён працягвае абліваць хлопца брудам — нават мёртвага», — адзначае Кастэнка.

«Каб быць журналістам «Комсомольскай правды», не абавязкова быць разумным або таленавітым. Галоўнае — не мець ніякіх зачаткаў маральнасці», — рэзка падсумоўвае Кастэнка.

**Сяргей Гезгала**

# Новая стратэгія нацыянальнай бяспекі Расіі разглядае «зніжэнне ролі рускай мовы ў свеце» як пагрозу

Перад Новым годам Уладзімір Пуцін падпісаў указ № 683 «Аб стратэгіі нацыянальнай бяспекі Расійскай Федэрацыі». Ёсць у ёй некаторыя пункты, што ўскосна і наўпрост тычацца Беларусі як сумежнай з Расіяй дзяржавы і краіны-ўдзельніцы СНД. Так, што тычыцца моўнага пытання, то ў стратэгіі адзначаецца: пагрозамі нацыянальнай бяспецы ў галіне культуры з'яўляюцца зніжэнне ролі рускай мовы ў свеце, якасці яе выкладання за мяжой, спробы фальсіфікацыі расійскай і сусветнай гісторыі.

Што мова для расіян і тых, хто да іх сябе адносіць, можа служыць *casus belli*, мы бачылі ў 2014 годзе. Таму ўсім суседзям Расіі трэба гэты пункт ведаць. Асабліва нам, таму што сярод дзяржаў, сумежных з Расіяй, толькі ў Беларусі можна яўна вызначаць зніжэнне ролі рускай мовы, таму як толькі ў нас яна засталася дзяржаўнай.

Таксама стратэгія надзяляе рускую мову дадатковай палітычнай функцыяй. Згодна са стратэгіяй, адмысловае значэнне для ўмацавання нацыянальнай бяспекі ў галіне культуры мае правядзенне дзяржаўнай палітыкі па рэалізацыі функцый рускай мовы як асновы развіцця інтэграцыйных працэсаў на постсавецкай прасторы [у якую ўваходзяць і Літва, Латвія, Эстонія] і сродку задавальнення моўных і культурных патрэбаў суайчыннікаў за мяжой. Расія рэалізуе праграмы падтрымкі вывучэння рускай мовы і культуры ў дзяржавах-удзельніцах СНД для паскарэння працэсаў еўразійскай інтэграцыі. Умацаванню нацыянальнай бяспекі ў сферы культуры дапамагае развіццё агульнага гуманітарнага і інфармацыйна-тэлекамунікацыйнага асяроддзя на тэрыторыях дзяржаў-удзельніц СНД і ў сумежных рэгіёнах.

Што тычыцца фальсіфікацыі расійскай і сусветнай гісторыі, то тут у пару задаць пытанне: а суддзі хто?

Варта адзначыць, што гэты ўказ не канцэпцыя нацыянальнай бяспекі (як, напрыклад, у нас), а з'яўляецца базавым дакументам стратэгічнага планавання. І хоць у стратэгіі адзначана, што прымяненне ваеннай сілы для абароны нацыянальных інтарэсаў магчыма толькі ў тым выпадку, калі ўсе прынятыя меры негвалтоўнага характару аказаліся неэфектыўнымі, не зразумела, што за меры будуць прынятыя і ці будуць імкнуцца зрабіць іх эфектыўнымі.

З пункту гледжання эканомікі стратэгія ўключае наступнае: у мэтах процідзеяння пагрозам эканамічнай бяспекі прадугледжана паскоранае развіццё аграпрамысловага комплексу. А ўлічваючы тое, што амаль уся прадукцыя аграпрамысловага комплексу Беларусі экспартуецца ў Расію, то гэты пункт ёсць пагрозай нашай эканамічнай бяспецы. Зразумела, што Расія будзе перш за ўсе клапаціцца пра сваю эканоміку, а не суседзяў, нават калі яны ўваходзяць у ЕАЭС. Больш за тое, і ў дачыненні эканомікі, і ў дачыненні ваеннай бяспекі нам варта помніць словы У. Пуціна: «Расія, слава богу, не ўваходзіць ні ў якія альянсы, гэта таксама ў значнай ступені заклад нашага суверэнітэту, любая краіна, якая ў альянсы ўваходзіць, адразу частку свайго суверэнітэту аддае, і далёка не заўсёды гэта адлюстроўвае нацыянальныя інтарэсы той ці іншай краіны, але гэта іх суверэннае рашэнне».

**Ягор Лебядок**

**Меркаванне**

## Навагодні падарунак беларусам ад Пуціна



Прэзідэнт Уладзімір Пуцін падпісаў указ аб мерах па забеспячэнні эканамічнай бяспекі і нацыянальных інтарэсаў Расіі пры транзітных перавозках грузаў з Украіны ў Казахстан праз расейскую тэрыторыю. Тэкст апублікаваны на інтэрнэт-партале прававой інфармацыі РФ.

«Международные транзитные автомобильные и железнодорожные перевозки грузов с территории Украины на территорию Республики Казахстан через территорию РФ осуществляются только с территории *Республики Белоруссия*...»

«Белоруссия» — так Пуцін называе нашу рэспубліку, насуперак форме, замацаванай у беларускай Канстытуцыі. Раз Крамлю не ўдалося размясціць у нас авіябазу, то яны размясцілі на нас сваю назву, далі нашай Рэспубліцы мянушку па прынцыпе «Як самалёт назавеш, так ён і паляціць».

Цікава, каго Пуцін лічыць кіраўніком сваёй Беларусі? І якую дае яму мянушку? І не меней цікава, як адрэагуе МЗС Беларусі і сам яе Уладар на падобнае перайменаванне?

Магчымыя наступныя варыянты рэакцый:

1) публічны пратэст МЗС Беларусі ў пісьмовай форме;

2) тэлефонны званок уладара Беларусі Пуціну з выказваннем пратэсту, пра званок: а) паведамляецца ў СМІ; б) не паведамляецца;

3) Пуцін дарыць Лукашэнку вайсковы сучасны імянны самалёт з надпісам «Белоруссия».

Не менш цікавая рэакцыя на перайменаванне Беларусі лідараў грамадскай думкі і тых, хто называе сябе апазіцыяй.

Магчымыя варыянты:

1) не заўважылі;

2) выказалі пратэст: а) выйшлі да амбасады Расеі з лозунгамі, б) зрабілі пісьмовую заяву з пратэстам;

3) папярэдзілі народ і сусветную супольнасць аб падрыхтоўцы акупацыі па мадэлі анексіі Крыма.

Хутчэй за ўсё, рэакцыя Аляксандра Лукашэнкі і лідараў грамадскай думкі будзе як у прымаўцы «Хоць чыгунком называй, абы ў печ не ставіў».

Такая «гаршковая» стратэгія рэакцыі да імперскіх дзеянняў Расеі ўжо прывяла да страты палітычнага суверэнітэту (саюзная дзяржава Беларусь-Расія), вайсковага суверэнітэту (адзіная СПА і АДКБ), эканамічнага суверэнітэту (Еўразійскі эканамічны і Мытны саюз). Людзі перасталі заўважаць адсутнасць мяжы з Расеяй, як не заўважае інвалід, што яму даўно ампутавалі нагу. Але ў таго хоць часам узнікаюць фантомныя болі.

Цікава, як у гэтым годзе ўлады Крамля будуць дацiскаць А.Лукашэнку на чарговыя крокі па здачы суверэнітэту і як ён будзе супраціўляцца.

**Уладзімір Падгол**



# Топ-60 чыноўнікаў Беларусі:

«Наша Ніва» прапануе традыцыйны агляд лукашэнкаўскіх элітаў. Папярэднія былі зробленыя ў 2009, 2011 і 2013 гадах.

Для разгляду мы ўзялі прэм'ер-міністра, віцэ-прэм'ераў, спікераў абедзвюх палат парламента, старшынь асноўных судоў, прадстаўнікоў Адміністрацыі прэзідэнта, генпракурора, кіраўніка спраў прэзідэнта, міністраў, старшынь дзяржаўных і нацыянальных камітэтаў, старшынь аблвыканкамаў, старшыню ЦВК, Нацбанка, ІАЦ і дзяржсакратара Рады бяспекі. Такім чынам, атрымалася 63 чалавекі. Вакантных пасад на дадзены момант няма, усе запоўненыя.

У параўнанні са спісам 2013-га года з'явілася 25 адрозных прозвішчаў. Нехта ўпершыню атрымаў высокую пасаду, а іншыя зноў вернутыя ў вышэйшыя эшалоны (Анфімаў).

### Старэйшыя за Украіну, маладзейшыя за Нямеччыну

Летась Аляксандр Лукашэнка меў сустрэчу з міністрам замежных спраў Аўстрыі Себасцьянам Курцам. Два гады таму, калі Курца прызначылі на такую высокую пасаду, яму было ўсяго 27 гадоў. Ён нават не меў закончанай вышэйшай адукацыі, але ў Аўстрыі яму даверылі такую адказную працу.

Мікалаю II, калі ён узышоў на расійскі трон, было ўсяго 26 гадоў.

**Сярэдні ўзрост найвышэйшых чыноўнікаў**

2009 — 54,2
2011 — 54,4
2013 — 55,8
2016 — 53,7

**Самы малады**

2009 — Латушка (36 гадоў)
2011 — Латушка (38)
2013 — Швед і Шорац (40)
2016 — Цэрахаў (37)

**Колькасць пенсіянераў**

2009 — 15
2011 — 11
2013 — 21
2016 — 15

**Народжаныя не ў Беларусі**

2009 — 11
2011 — 11
2013 — 9
2016 — 9

З другога боку, Валдасу Адамкусу споўнілася 77 гадоў, калі ён у другі раз заступаў на пасаду прэзідэнта Літвы.

Сярэдні ўзрост беларускага чыноўніка найвышэйшага рангу склаў 53,7 года. І гэта рэкорд у параўнанні з папярэднімі замерамі. Калі параўнаць з лічбай двухгадовай даўніны, то яна зменшылася больш чым на 2 гады (з 55,8).

53,7 — гэта многа ці мала? У розных краінах розныя падыходы. Напрыклад, гэта нашмат болей, чым мае ўкраінскі кабінет міністраў. Яго сярэдні ўзрост складае 44,4 года. Наймаладзейшай Ганне Анішчанка там усяго 31 год. Віцэ-прэм'еру Валерыю Вашчэўскаму 59 гадоў — ён найстарэйшы. Прэм'ер-міністр Украіны Арсеній Яцанюк па беларускіх мерках таксама яшчэ «зялёны», яму 41 год.

Затое сярэдні ўзрост федэральнага ўрада Германіі яшчэ вышэйшы, чым у Беларусі, ён складае 56,4 года. Найстарэйшаму, міністру фінансаў Вольфгангу Шойбле, у верасні споўнілася аж 73 гады. Самая маладая міністарка ў Германіі — гэта Мануэла Швезіг, якая адказвае за справы сям'і, пенсіянераў, жанчын, моладзі. Ёй 41 год. Аднак тут варта звярнуць увагу, што ў Нямеччыне і жанчыны, і мужчыны выходзяць на пенсію пасля 65 гадоў. Ды і сярэдняя працягласць жыцця там складае 80 гадоў, а не 70, як у Беларусі.

### Самы малады — міністр ЖКГ

Самы малады міністр у беларускім урадзе — Аляксандр Цэрахаў, у падначаленні якога міністэрства ЖКГ. Яму 37 гадоў. Варта адзначыць, што і папярэднік Цэрахава Андрэй Шорац, сённяшні кіраўнік Мінска, таксама быў прызначаны на пасаду да 40 гадоў.



Валянцін Сукала быў міністрам юстыцыі яшчэ ў БССР. Вышэйшую адукацыю ён атрымаў 48 гадоў таму.



37-гадовы Аляксандр Цэрахаў прыехаў у Мінск з Гомеля.

## Дзе нарадзіліся беларускія чыноўнікі




Толькі на год старэйшы за Цэрахава кіраўнік дзяржаўнага камітэта па маёмасці Андрэй Гаеў. Ён ужо больш за год знаходзіцца на сваёй пасадзе, але рэдка бывае на слыху праз непублічнасць ведамства, якое ён узначальвае.

Памочніку прэзідэнта па пытаннях эканомікі Кірылу Рудаму 37 гадоў, а памочніку па пытаннях бяспекі Віктару Лукашэнку — 39.

З тых, каму крыху за 40, варта адзначыць кіраўніка Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Аляксея Дзербіна (40), старшыню камітэта судовых экспертыз Андрэя Шведа (42), кіраўніка Мінска Андрэя Шорца (42), міністра па падатках і зборах Сяргея Налівайку (42), намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта па пытаннях ідэалогіі Ігара Бузоўскага (43), міністра юстыцыі Алега Сліжэўскага (43), кіраўніка камітэта па навуцы і тэхналогіях Аляксандра Шуміліна (44), старшыню Следчага камітэта Івана Наскевіча (45).

У прынцыпе, можна канстатаваць, што чыноўнікаў маладзейшага пакалення паболела.

### 15 пенсіянераў

Адпаведна, знізілася і колькасць пенсіянераў. Цяпер сярод топ-чынавенства іх 15 чалавек. Два гады таму быў 21. Сышлі на адпачынак Герой Беларусі Пятро Пракаповіч і віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік, няма сёння ў калодзе Лукашэнкі Аляксандра Радзькова, адпраўлены ў адстаўку міністр абароны Юрый Жадобін, кіраўнік Брэстчыны Канстанцін Сумар.

Сышоў са сцэны спікер савета рэспублікі, сталініст і аўтар «туалецішча» Анатоль Рубінаў.

На сёння найстарэйшым чыноўнікам высокага рангу з'яўляецца старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала (73 гады), ён быў міністрам юстыцыі яшчэ за часамі БССР.

Адразу за ім ідуць трое 66-гадовых. Гэта віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, які займаецца пытаннямі энерганосьбітаў ва ўрадзе ўжо амаль 15 гадоў, спікер палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка і кіраўнік Памежнага камітэта Леанід Мальцаў. Толькі на год меней старшыні савета рэспублікі Міхаілу Мясніковічу.

Пенсійнага веку таксама дасягнулі: кіраўнік Вайскова-прамысловага камітэта Сяргей Гурулёў (62), старшынька ЦВК Лідзія Ярмошына (62), гродзенскі «губернатар» Уладзімір Краўцоў (62), кіраўнік КДК Леанід Анфімаў (61), віцэ-прэм'ер па сельскай гаспадарцы Міхаіл Русы (61), старшыня Канстытуцыйнага суда Пятро Міклашэвіч (61), першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Канстанцін Мартынецкі (60), міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі (60).

Самымі маладымі пенсіянерамі з'яўляюцца міністарка працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна (57) і міністарка інфармацыі Лілія Ананіч (55).

### Дактары навук

Сярод 63 чыноўнікаў ёсць 5 дактароў навук. Варта адзначыць, што колькасць тых, хто забяспечыў сабе акадэмічны ранг, стабільна змяншаецца. Дактарамі навук з'яўляюцца Міхаіл Мясніковіч (эканамічных), кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Косінец (медыцынскіх), міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў (фізіка-матэматычных), Леанід Мальцаў (паліталагічных) і старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра (эканамічных).

Яшчэ пяцёра з'яўляюцца кандыдатамі навук. Гэта зноўку ж Леанід Мальцаў (сацыялагічных), Андрэй Швед (юрыдычных), стар-

# гродзенскія выціснулі магілёўскіх

шыня Нацбанка Павел Калаўр (эканамічных), дзяржсакратар Рады бяспекі Станіслаў Зась (вайсковых), Аляксей Дзербін (юрыдычных).

### Народжаныя не ў Беларусі

Такіх на дадзены момант застаецца 9 чалавек, столькі ж было і ў 2013-м.

З усходняй Украіны паходзяць Станіслаў Зась і міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што Шуневіч ці не адзінц з сілавікоў, хто атрымліваў адукацыю ў Беларусі.

Сем чалавек паходзіць з Расіі. Тут таксама трэба адзначыць, што ў большасці з іх сталенне, навучанне праходзіла якраз у Беларусі. Выключэннем хіба можна назваць Сяргея Гурулёва (родам з Чыты) і Марыяну Шчоткіну, паходзіць з Мурманскай вобласці, навучалася ў Ленінградзе.

Астатняя ж ураджэнцы Расіі жывуць у Беларусі з малады гадоў: прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў, міністр архітэктуры і будаўніцтва Анатоль Чорны, міністр МНС Уладзімір Вашчанка, Леанід Анфімаў, Уладзімір Краўцоў.

### Найбольш з Гродзеншчыны, найменей з Брэстычыны

Астатнія 54 чалавекі нарадзіліся на тэрыторыі Беларусі. Вяскоўцаў па нараджэнні ўсё яшчэ болей за гараджан — 28 на 26.

Шасцёра чалавек нарадзіліся ў Мінску: Валянцін Сукала, міністр культуры Барыс Святлоў, міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко, міністр фінансаў Уладзімір Амарын, кіраўнічка Белстата Іна Мядзведзева і Аляксей Дзербін.

Яшчэ шасцёра нарадзіліся ў абласных цэнтрах: генеральны пракурор Аляксандр Канюк і Алег Сліжэўскі — у Гродне, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Мікалай Снапкоў і міністр прыродных рэсурсаў Андрэй Каўхута — у Магілёве, Аляксандр Церахаў — у Гомелі, Андрэй Шорац — у Віцебску. Ніводнага высокага чыноўніка няма родам з Брэста.

Сярод драбнейшых раённых цэнтраў лідзіруюць Аршанскі і Калінкавіцкі. З усходняй Віцебшчыны родам першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, Аляксандр Косінец і старшыня Віцебскага аблвыканкама — Мікалай Шарстнёў. З Калінкавіцкага раёна — Уладзімір Сямашка, міністр прамысловасці Віталь Воўк, а таксама кіраўнік камітэта па стандыртызацыі Віктар Назаранка.

З Драгічынскага раёна родам старшыня КДБ Валерый Вакульчык і Васіль Жарко. З Карэліцкага — міністр замежных справаў Уладзімір Макей і кіраўнік мытнага камітэта Юрый Сянько. З Навагрудскага — Ігар Бузоўскі і міністр лясной гаспадаркі Міхаіл Амельяновіч. Са Слуцкага — міністр сельскай гаспадаркі Леанід Заяц і Лідзія Ярмошына. Са Столінскага — Павел Калаўр і Іван Наскевіч.

Яшчэ па адным чалавеку ёсць з Краснапольскага, Полацкага, Жыткавіцкага, Нясвіжскага, Лёзненскага, Вілейскага, Гарадоцкага, Лідскага, Воранаўскага, Барысаўскага, Бешанковіцкага, Салігорскага, Бабруйскага, Горацкага, Чэрвеньскага, Нараўлянскага, Асіповіцкага, Светлагорскага, Смаргонскага, Бярозаўскага, Слонімскага, Лельчыцкага, Любанскага, Мастоўскага, Рэчыцкага і Дзяржынскага раёнаў.

Найслабей прадстаўлена Брэсцкая вобласць (5 чалавек) і Магілёўская (6). Найбольш жа прадстаўнікоў з Гродзеншчыны — аж но 11.

Пасля адстаўкі кіраўніка Следчага камітэта Валянціна Шаева (родам з Глыбокага) зусім не прадстаўленая заходняя Віцебшчына.



Міністр фінансаў Уладзімір Амарын — тыповы беларускі чыноўнік.



Аляксей Дзербін адзін з маладзейшых у кіруючай эліце.



Генпракурор Аляксандр Канюк родам з Гродна.



Іна Мядзведзева — новы жаночы твар у кіраўніцтве краіны.

### Акадэмія кіравання як другая адукацыя

Сярод навучальных установаў, што скончвалі чыноўнікі, лідзіруе БДУ. Дыпломы гэтай ВНУ мацюць 12 чалавек. Наргас скончылі дзявяцера чалавек. Палітэх — шасцёра. Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію — пяцёра. Магілёўскі машынабудаўнічы — трое. Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы і Віцебскі тэхналагічны — па двое.

У якасці другой адукацыі аж 21 чалавек скончыў Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. Прычым атрымліваць адукацыю ідуць людзі, якія ўжо знаходзяцца на высокіх пасадах. Цікава, як адбывалася здача залікаў і экзаменаў, напрыклад, у былога кіраўніка ААЦ Валерыя Вакульчыка ці міністра юстыцыі Алега Сліжэўскага.

Звяртае ўвагу, што двое чыноўнікаў скончылі Расійскую акадэмію дзяржаўнай службы (аналаг нашай Акадэміі кіравання) — Ігар Бузоўскі і міністр энергетыкі Уладзімір Патупчык.

Сярод старшынь аблвыканкамаў папулярным з'яўляецца Віцебскі ветэрынарны інстытут — яго скончылі кіраўнікі Віцебшчыны і Гомельшчыны Мікалай Шарстнёў і Уладзімір Дворнік.

### Ані асоб з заходняй адукацыяй, ані жанчын

Па-ранейшаму фактычна няма нікога з заходняй адукацыяй. Толькі Уладзімір Макей у 1992—1993 праходзіў кароткія курсы пры Аўстрыйскай дыпламатычнай школе. Украінскую юрыдычную акадэмію ўжо за часамі незалежнасці скачваў Іван Наскевіч, праўда, паступаў ён туды яшчэ па савецкай інерцыі.

Найпазней вышэйшую адукацыю атрымалі віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін (34 гады) і міністр спорту Аляксандр Шамко (32).

Жанчын сярод вышэйшага кіраўніцтва нікчэмна мала — усяго чатыры. Гэта Марыяна Шчоткіна, Лідзія Ярмошына, Лілія Ананіч і Іна Мядзведзева. Раней была яшчэ Надзея Ермакова.

### Сярэдні чыноўнік — Уладзімір Амарын

Такім чынам, сярэдні беларускі чыноўнік — гэта мужчына 54 гадоў, які скончыў БДУ, наргас ці сельскагаспадарчую ВНУ, а пасля замацаваў веды ў Акадэміі кіравання.

Гэтаму апісанню дакладна адпавядаюць міністр фінансаў Уладзімір Амарын і генпракурор Аляксандр Канюк. Асобы не самыя яркія, але старанныя.

Зміцер Панкавец



## Аляксандр Пазняк — новы памочнік Лукашэнкі

Чыноўнік заняў пасаду інспектара па Віцебшчыне, якая была свабоднай на працягу года.

Хто такі Аляксандр Пазняк? Ён нарадзіўся ў 1963 годзе ў Лоеве. Рабіў камсамольскую кар'еру. У 1995—2000 гадах Пазняк быў старшынёй Камітэта па справах моладзі, а калі ведамства расфармiравалі, на нейкі час сышоў у бізнэс.

У 2010 годзе Пазняк на год стаў памочнікам старшыні Віцебскага аблвыканкама Андрэя Косінца. Пасля стаў на чале Полацка, а апошнім часам узначальваў Савецкі раён Мінска.

ЯМ

**Ранейшыя інспектары па Віцебшчыне**

1. Раман Унучка (2000 — 2003)
2. Васіль Дваранінавіч (ліпень-снежань 2003)
3. Зянон Ломаць (2003 — 2006)
4. Леанід Крупец (сакавік-чэрвень 2007)
5. Віктар Піліпец (2007 — 2009)
6. Мікалай Дамашкевіч (2010 — 2014)
7. Мікалай Шарстнёў (2014 — 27 снежня 2014)
8. Аляксандр Пазняк (ад 2015)

# Як настаўнік музыкі з калготкамі і панчохамі

# Гісторыя поспеху заснавальніка

Апошнія дні снежня 2015 года, Гродна, Скідзельскі рынак. Індывідуальныя прадпрымальнікі распрадаюць рэшткі тавару, але цану моцна не скідваюць.

«Гэта ў вас якія панчохі, турэцкія? — удакладняе жанчына. — А чаго яны такія дарагія? Беларускія ж таннейшыя і больш якасныя». — «А што, усім цяпер толькі «Контэ» прадаваць?» — адказвае пытаннем на пытанне прадавачка.

Ад пачатку студзеня турэцкія панчохі на рынку больш не прадаюць. Прадпрымальнікі млява чакаюць ласкі з боку дзяржавы, але чыноўнікі раней ужо давалі ім некалькі адтэрміновак. Цяпер усё сур'ёзна. Гаспадар «Контэ» Валянцін Байко можа святкаваць перамогу над туркамі.

Байко — найбагацейшы гродзенскі прадпрымальнік і адзін з самых уплывовых бізнэсоўцаў краіны. Яго імя спажыўцы могуць і не ведаць, затое прадукцыяй «Контэ Спа» карыстаецца абсалютная большасць жанчын краіны.

Украінскія маркетолагі ацанілі кошт брэнда на $50 мільёнаў! І гэта толькі назва, без прамысловых магутнасцяў. Сярод прыватных кампаній Беларусі «Контэ Спа» займае другое месца па прыбытковасці, наперадзе толькі «Еўраопт».

«Наша Ніва» расказвае, як стваралася бізнэс-імперыя сям'і Байко.




Валянцін Байко — самы багаты гарадзенец.



Сціплы дом сям'і Байко каля Нёмана.



Вясковая рэзідэнцыя Валянціна Байко.

### «Калі б у школе нармальна плацілі, не пайшоў бы ў бізнэс»

20-я школа Гродна — адна з нямногіх навучальных установаў, якія маюць уласны музей. На сценах развешаныя стэнды са здымкамі славутых навучэнцаў. Найчасцей сустракаюцца фота бізнэсоўцаў Валянціна Байко і Андрэя Паўлоўскага — выпускнікоў, якія сталі асноўнымі фундатарамі музея.

Якім вучнем быў будучы мільянер? Выдатнікам не быў, але і на другі год не пакідалі... Настаўнікі, якія выкладалі ў яго, ужо на пенсіі. Таму работнікі школы раяць звярнуцца да паліттэхнолага і літаратуразнаўцы Аляксандра Фядуты. Ён быў выпускніком 20-й школы, а пасля яшчэ і настаўнічаў там.

У кнізе «Маленькі Парыж», напісанай Фядутам пра Гродна, «Валік Байко» некалькі разоў згадваецца як выхавацель у падлеткавым лагеры «Навука» для параможцаў раённых алімпіяд.

«Валік быў нешматслоўным, засяроджваўся на працы. Карыстаўся кожнай магчымасцю, каб сумленна зарабіць. Ездзіў працаваць у летнікі, іграў на вяселлях», — расказвае Фядута.

«Я па адукацыі настаўнік пачатковых класаў і музыкі. І калі б у школе нармальна плацілі, я б не пайшоў у бізнэс», — узгадваў Байко ў інтэрв'ю «Камсамольскай праўдзе».

### Ад бананаў да панчох

У пачатку 1990-х многія жыхары заходняй Беларусі зараблялі прымежным гандлем, і сям'я Байко не была выключэннем.

Сям'я — гэта бацька, Валянцін Байко-старэйшы, які надаў бізнэсу першаснае паскарэнне, і яго два сыны. Валянціна Байко-малодшага называюць агульным кіраўніком справы, а Дзмітрый займаецца будаўнічымі праектамі.

На панчохах і калготках спыніліся не адразу. Сямейныя легенды расказваюць нават пра спробы гандлю бананамі. А для старту бізнэсу давялося прадаць аўтамабіль.

Першыя два вязальныя станкі бралі ў немцаў у кошт доўга. На беларускім рынку панчохі не выпускаліся, таму прадпрымальнікам удалося заняць свабодную нішу.

«Контэ Спа» з'явілася ў 1997 годзе, партнёрам сям'і Байко быў гродзенскі бізнэсмен Рычард Шэраль. Ён і цяпер працуе топ-менеджарам у структуры кампаніі.

Панчохі пайшлі на экспарт, што дазволіла атрымаць валюту для далейшага развіцця вытворчасці. Сакрэт поспеху «Контэ» быў у арыентацыі на замежжа. Дагэтуль больш за палову прадукцыі ідзе на суседнія рынкі, перадусім Расіі і Украіны. У гэтых краінах «Контэ» вядзе актыўную рэкламную кампанію. Напрыклад, на майдане Незалежнасці ў Кіеве нават у часе рэвалюцыі вісела гіганцкая расцяжка беларускай кампаніі.

У апошні час «Контэ» зарабляла дзясяткі мільёнаў даляраў штогод (глядзі табліцу). Кампанія навучылася аператыўна рэагаваць на запыты спажыўца. Гэта даўно ўжо не толькі панчохі з калготкамі.

Штаны, камбінезоны, шкарпэткі? Лёгка. Майткі, купальнікі, шапкі? Калі ласка. Трыкатажная прадукцыя прадаецца пад брэндам *Esli*, а мужчынскія тавары назвалі *DiWaRi*.

У асартыменце з'явіліся і дробныя аксесуары накшталт заколак для валасоў. Іх выпускаюць у Кітаі, а пасля імпартуюць у Беларусь.

Калі «Контэ» толькі з'яўлялася на рынку панчох, канкурэнцыя была невялікай. Але рынак адзення нашмат больш насычаны. Пашыраючы вытворчасць, Байко мусіў лабіраваць інтарэсы сваіх кампаній.

### Пралабіраваная рэформа

Філасофія бізнэсоўца супала з эканамічным светапоглядам Аляксандра Лукашэнкі. Чым выпуск шкарпэтак і купальнікаў не імпартазамяшчэнне?

«Беллегпрам» і раней вёў млявую барацьбу супраць замежных тавараў, але «Світанак» з «Купалінкай» знаходзіліся пад малаэфектыўным дзяржаўным кіраўніцтвам і не дэманстравалі поспехаў.

Валянцін Байко пастаянна даводзіў, што індывідуальныя прадпрымальнікі маюць неабгрунтаваныя льготы. Адстойваў ён сваю пазіцыю і на нарадах ва ўрадзе.

«Многія гады было ўзаконена, што людзі, якія гандлююць на базарах, не мелі дакументаў, якія пацвярджаюць набыццё тавару. Такая пастаноўка пытання з'яўляецца дзіўнай і нелагічнай у цывілізаваным свеце. У кожнага чалавека, які мае дом, машыну, адзенне, ёсць дакументы. А тут цэлая армія прадпрымальнікаў у нейкіх ільготных умовах. Гэта фактычна ўзаконены канал збыту нелегальных тавараў з Кітая і Кыргызстана!» — летась даводзіў сваю пазіцыю Байко ў эфіры «Беларусь-1».

Увядзенне сертыфікацыі перадзяліць рынак. Пэўнікі будуць з яго вымытыя, і найбольшую выгаду атрымаюць беларускія вытворцы.

«Нішы будуць занятыя суб'ектамі гаспадарання, не толькі вытворцамі, але і імпарцёрамі, якія ў стане прывозіць прадукт з нармальнымі дакументамі», — спрагназаваў Байко. Ягоны «Контэ» трапляе ў абедзве катэгорыі.

Сам бізнэсовец запэўнівае, што дбае пра роўныя ўмовы працы: «Калі прадпрымальнік на рынку не мае дакументаў, той, хто закупіць легальны тавар і сплаціць з гэтага большы падатак, стане неканкурэнтаздольным. Цяпер, калі ўсе будуць у роўных умовах, усе будуць абавязаныя перастроіцца. Ці ісці на завод працаваць, ці стаць мастакамі і музыкантамі, ці прадпрымальнікамі».

Дзяржава з насцярогай ставіцца да поспехаў прыватнікаў. Другое і трэцяе месцы рэйтынгу гродзенскіх бізнэсоўцаў — згаданы вышэй сенатар Андрэй Паўлоўскі (сельскагаспадарчая кампанія «Біяком») і сям'я Зухавіцкіх (мэбля «ЗОВ»), — пад следствам.

**Валянцін Байко**

Нарадзіўся 30 лістапада 1969 года. Па адукацыі — настаўнік музыкі і пачатковых класаў. Уласнік «Контэ Спа», сеткі крамаў *Optima*, клубаў і рэстаранаў у Гродне.

Мае траіх дзяцей.

**Прыбытковасць «Контэ Спа»***

2015 — $13 мільёнаў (звесткі 3-га квартала)

2014 — $42 мільёны (звесткі 1—3 кварталаў)

2013 — $22 мільёны

2012 — $56 мільёнаў

2011 — $85 мільёнаў

2010 — $53 мільёны

Агулам — больш за $270 мільёнаў

*дадзеныя Міністэрства фінансаў

На «Контэ Спа» і Брэсцкім панчошным камбінаце працуе каля 3 тысяч чалавек

**Самыя паспяховыя і ўплывовыя бізнэсоўцы рэгіёнаў***

Брэстчына — Аляксандр Машэнскі («Савушкаў», «Санта Брэмар»; №5**)

Магілёўшчына — Яўген Баскін («Сервалюкс», №6)

Гродзеншчына — Валянцін Байко («Контэ Спа», №10)

Віцебшчына — Мікалай Мартынаў («Марка», №15)

Міншчына — Анатоль Капскі (БАТЭ, №32)

Гомельшчына — Дзмітрый Пахомаў («Алкапак», №55)

*па версіі «Ежедневника»

**месца ў агульнабеларускім рэйтынгу

# перамог індывідуальных прадпрымальнікаў
# «Контэ Спа» Валянціна Байко



Пасярод гандлёвага цэнтра пабудавалі сярэднявечны замак.

А «Контэ Спа» тым часам увайшло ў склад «Беллегпрама». Летам 2015 года старшыня канцэрна заявіў, што паспяховае прадпрыемства само папрасілася пад дзяржаўнае крыло.

### Гандлёвыя цэнтры, крамы, клубы

Малодшы з братоў, Дзмітрый, курыруе будаўнічы бізнэс. Сям'я Байко ўшчыльную занялася гандлёвымі цэнтрамі.

Увосень 2015 года на вуліцы Дубко ў Гродне адкрыўся цэнтр *Old City* («Стары горад») з гіпермаркетам «Гіпа». На першым паверсе будынка ўзвялі імправізаваны замак са старой цэглы, сабранай у польскіх вёсках.

Пры дапамозе палякаў сям'я Байко збіраецца будаваць у Гродне яшчэ адзін гандлёвы цэнтр, на рагу праспектаў Кляцкова і Янкі Купалы. Кошт «Трыніці» («Тройца») ацэньваецца на 66 мільёнаў еўра. Праект прадугледжвае больш за 60 тысяч $м^2$ гандлёвых плошчаў і можа стаць найбуйнейшым гандлёвым цэнтрам у краіне.

Таксама Байко валодае клубамі і рэстаранамі ў Гродне, а таксама сеткай крамаў касметыкі і бытавой хіміі «Оптыма».

### Рэзідэнцыі сям'і Байко

Гродна — горад з каралеўскім мінулым і рэкардсмен краіны па прыросце насельніцтва. На ўскрайку горада разбудоўваюцца панэльныя спальныя раёны, і тым даражэйшай становіцца зямля ў гістарычным цэнтры і каля вады.

Уздоўж кручастых берагоў Нёмана, які разразае Гродна надвое, знаходзяцца некалькі паркаў. Будаўніцтва тут фактычна не вядзецца. Аднак пару гадоў таму ў парку Ласосна паўстаў комплекс з некалькіх катэджаў. Некалькі драўляных вясковых хатак тут стаялі і раней. Але цяпер яны сталі хлявамі побач з сучаснымі дамамі. У Ласосне ўзвяла свае катэджы бізнэс-эліта Гродна.

«Рух забаронены» — такі знак сустракае няпрошаных гасцей. Першым за шлагбаумам стаіць дом Станіслава Сямашкі, уласніка будаўнічых кампаній і гатэля, названага ў гонар сябе. Гэта той дзеяч польскага руху, які падтрымаў Аляксандра Лукашэнку і ў канцы 2000-х узначаліў «афіцыйны» Саюз палякаў Беларусі.

Побач з домам Сямашкі — сціплы катэдж сям'і Байко. Калі быць дакладным, Валянціна Байко-старэйшага.

А вось сам гаспадар бізнэсу, кажуць, атабарыўся ў Калбасіне. Калісьці гэта была вёска ў прыгарадзе Гродна, аднак з цягам часу Калбасіна ўвайшло ў склад абласнога цэнтра.

Рэзідэнцыя Байко раскінулася амаль на 30 сотках зямлі. За каменным плотам, выстаўленым елачкай, два будынкі. У двары стаіць мікрааўтобус з дыпламатычнымі нумарамі. Нездарма ж Валянцін Байко-малодшы — ганаровы консул Украіны ў Гродне.

### Мільянер-вегетарыянец

Разбагацеўшы, многія бізнэсоўцы змяняюць лад жыцця. Валянцін Байко не стаў выключэннем. Ён захапіўся экалогіяй.

«Мяса я не ем. Рыбу апошні раз еў паўгода таму, вырашыў, што больш не буду і ўжо не хачу, — расказваў ён «Камсамольскай праўдзе». — Я ішоў да здаровага ладу жыцця паступова. Я ніколі раней не думаў, што фрукты і ягады — гэта не дэсерт, а паўнавартасная ежа. Няма нічога смачнейшага на снеданак. Сёння гэта былі апельсіны, груша, банан, трошкі арэшкаў, ківі. А беларускія грушы, яблыкі і слівы са свайго саду ў жніўні — самыя смачныя ў свеце!»

Некалькі гадоў таму на «Контэ Спа» хацелі «павесіць» стратны калгас. Ідэя так і не была рэалізаваная, аднак інтарэс да сельскай гаспадаркі Байко займеў і нават зарэгістраваў уласную фермерскую гаспадарку.

«Я ўбачыў магчымасць жыць на прыродзе. Людзі з вёсак з'язджаюць у гарады, а я хачу жыць у вёсцы. Машына новая, кашуля чыстая — патрэбныя, але наогул шмат грошай для жыцця не трэба. Трэба, каб блізкія былі здаровыя, каб у хаце добрая атмасфера, энергетыка была».

У сям'і Валянціна Байко трое дзяцей — старэйшая дачка-студэнтка і двое сыноўшкольнікаў.

**Ягор Марціновіч**

# Гандляры ўзялі паўзу

**Большасць рынкаў закрытыя, але на канфлікт з уладай гандляры не ідуць.**


Ірына Арахоўская

Многія прадпрымальнікі, якія гандлявалі на рынках абуткам і вопраткай, спынілі працу.

У залежнасці ад рынкаў на працу не выйшлі 70—90% гандляроў. Гэта звязана з тым, што 1 студзеня 2016 года канчаткова ўступіў у сілу ўказ №222, які забараняе гандляваць таварам без накладных і сертыфікатаў.

Чыноўнікі рабілі некалькі крокаў насустрач прадпрымальнікам: напрыклад, працягнулі тэрмін, калі можна было гандляваць рэшткамі несертыфікаванага тавару, знялі абмежаванні на колькасць гандлёвых кропак, дазволілі наймаць на працу не толькі сваякоў. Іпэшнікам далі зразумець: ад пачатку года ўказ пачне працаваць, падабаецца гэта ім ці не.

Так і здарылася. Пакуль большасць прадпрымальнікаў проста сышлі з рынкаў.

«Не ведаю, што з гэтым рабіць», — паказвае свой тавар Наталля, якая гандлюе на Чэрвеньскім рынку сталіцы каля двух гадоў. Яе працоўнае месца зачыненае, жанчына прыехала не гандляваць, а падлічыць рэшткі. Указам яна, само сабой, незадаволеная.

«Купіць тавар у Беларусі каштуе вельмі дорага — зімовая шапка з сертыфікатам каштуе 150—280 тысяч, — абураецца яна. — І гэта толькі закупачная цана! А раней мы па такой цане прадавалі самі».

Жанчына сцвярджае, што раней іпэшнікі накручвалі каля 50% ад закупачных цэнаў. «Людзям не патрэбныя гэтыя сертыфікаты, ім трэба проста купіць танней», — кажа Наталля.

«Пачынаючы з 1990-х купцоў усё задавальняла! Тым больш мы таксама імкнёмся не браць гэты «галімы падвал» з Масквы, а едзем у Турцыю, Кітай, — кажа яе калега, Алёна, якая гандлюе дзіцячымі рэчамі. — А вось сёння чамусьці раптам трэба ўсё мяняць».

Алёна, у адрозненне ад суседкі, працягвае працу, бо гандлюе беларускай прадукцыяй і таварам з сертыфікатамі. Але і яна не задаволеная: «На беларускіх базах няма выбару. А мне трэба даць выбар купцу. А як?»

Па словах жанчын, апошнія месяцы яны працавалі за капейкі, не атрымліваецца зарабіць і $500. На пытанне, чаму тады працягвае гандаль, Алёна адказвае так: «А куды тавар падзець? Я ж у яго ўклала грошы».

Пры гэтым, нягледзячы на абурэнне, жанчыны кажуць, што пратэставаць нікуды не пойдуць, бо не бачаць у гэтым сэнсу.

Праўда, існуе і адваротнае меркаванне — што не ўсё так дрэнна.

«Увесь мой тавар мае сертыфікаты. І цэны не выраслі. Бо я рыхтаваўся два гады — шукаў пастаўшчыкоў», — кажа мужчына, які папрасіў падпісаць яго «прадпрымальнік Іваноў».

«Іваноў» гандлюе мужчынскімі джынсамі і кашулямі. Ён кажа, што, як і раней, працаваць можна.

«Я працую з праверанымі фірмамі. Штосьці не магу прывезці, але гэта не крытычна. А астатнім проста лянота варушыцца, штосьці шукаць. Многім лянота праверыць, што за паперы ім даюць — чалавек атрымлівае сертыфікат, а там тэрмін — «студзень 2015», мінулагодні. Гэта звычайная чалавечая лянота, — кажа мужчына. — Хто хацеў, той зрабіў усё нармальна. Зразумейце, што 80% закрыліся, але гэтыя 80% заўсёды былі пасіўнай масай. Яны не ездзяць на форумы, яны нічога не робяць».

Праўда, адзначае мужчына, каб падрыхтавацца яму спатрэбілася і спрыт, і грошы. А сярод іпэшнікаў хапае і людзей у гадах. І тут узо пытанні да беларускіх аптовых базаў, якія ўлады абяцалі адкрыць, кажа ён. «Бо на гэтых базах — завышаныя цэны, і браць тавар там не выгадна», — кажа «Іваноў».

Падобная ж сітуацыя і на астатніх рынках сталіцы і краіны. «Непасрэдна ў нас каля 80% тых, хто гандлюе вопраткай, закрыліся. Скажам так, узялі паўзу. Яны часткова аплочваюць працоўныя месцы, чакаюць, што будзе далей», — каментуе Генадзь Фінскі, дырэктар Чэрвеньскага рынка.

Фінскі кажа, што рашэнні павінны быць прынятыя як мага хутчэй. Інакш сам рынак як прадпрыемства спыніць сваё існаванне.

«Нас таксама гэты ўказ не задавальняе. Але што зробіш. Мы з Беларускім саюзам прадпрымальнікаў падрыхтавалі праект мераў па вырашэнні сітуацыі, — кажа ён. — Пры гэтым мы прыватнае прадпрыемства. Самі бралі валютны крэдыт, каб падрыхтаваць гэтую пляцоўку... І магу сказаць, што калі праект указа ў бліжэйшы час не будзе зменены, то мы, арганізацыя «Чэрвеньскі рынак», будзем падаваць на банкруцтва, бо не зможам плаціць па рахунках».

Па словах Фінскага, прадпрымальнікі чакаюць, што канчатковы адказ ім дадуць у студзені.

**Улад Швядовіч**

CESLIARY.BY
МЭБЛЯ І ЦЯСЛЯРСКІЯ ПРАЦЫ Ў МІНСКУ
Цяслярскія працы
Шафы-купэ, кухні ды любая іншая мэбля Вашае мары!
+375 44 461-90-20 (Velcom)
+375 29 749-90-20 (МТС)
ІП Дашкевіч Д. В., УНП 691599592

# У Расіі зяцю Пуціна далі дзяржкрэдыт на $1,75 млрд пад 2% гадавых

Газаперапрацоўчая і нафтахімічная кампанія «Сібур» атрымала крэдыт у памеры 1,75 млрд даляраў з Фонду нацыянальнага дабрабыту (ФНД). Сродкі пойдуць на фінансаванне будаўніцтва новага завода ў Табольску.

Сауладальнікам «Сібура» з'яўляецца Кірыл Шамалаў, якога СМІ называюць мужам дачкі Уладзіміра Пуціна Кацярыны Ціханавай, паведамляе агенцтва Reuters.

Паводле карпаратыўных дакументаў, якія патрапілі ў агенцтва, «Сібуру» ўдалося атрымаць гэты крэдыт пад 2% гадавых, у той час як на расійскім рынку найменшы працэнт пад такія сумы складае 7%.

Кірыл Шамалаў на запыт Reuters каментара не даў.



«Сібур Холдынг» — найбуйнейшы нафтахімічны холдынг Расіі, які займаецца перапрацоўкай спадарожнага нафтавага газу.

Член рады дырэктараў «Сібура» Кірыл Шамалаў кантралюе 21,3% акцый прадпрыемства — ён стаў іх уласнікам пасля таго як ажаніўся з дачкой Пуціна ў 2013 годзе.

Reuters апублікавала расследаванне пра Шамалава «Капіталізм між таварышамі: чалавек ажаніўся з дачкой Пуціна і потым разбагацеў».

Шамалаў заняў крэсла віцэ-прэзідэнта па адміністрацыйнай падтрымцы бізнэсу «Сібура» ў 26-гадовым узросце.

Бацькам Кірыла з'яўляецца Мікалай Шамалаў, які трапіў, дарэчы, у 2014 годзе пад санкцыі Еўрасаюза, улады якога ўключылі бізнэсмена ў найбліжэйшае атачэнне Пуціна, абгрунтаваўшы гэта тым, што абодва былі сузаснавальнікамі дачнага кааператыва «Возера».

Прэс-сакратар прэзідэнта Дзмітрый Пяскоў не каментаваў гэтай публікацыі «Ройтэрз».

А хто такі той Шамалаў-старэйшы? Да 1990-х ён працаваў стаматолагам, пасля чаго пачаў займацца пастаўкамі медыцынскага абсталявання.

## «Нідзе ні чорта не робіць, б..!»

Раз'юшаны кіраўнік Крыма мацюкаўся ў жывым эфіры.



Кіраўнік расійскай адміністрацыі Крыма Сяргей Аксёнаў заяўляе аб неэфектыўнай працы крымскага штаба па ліквідацыі надзвычайнай сітуацыі. На пасяджэнні штаба 4 студзеня ў Сімферопалі, якое транслявалў у жывым эфіры канал «Першы крымскі», ён павышаў голас і нецэнзурна лаяўся.

Абурэнне Аксёнава выклікала адключэнне святла па агульнай схеме дамоў, жыццядзейнасць якіх цалкам залежыць ад электрычнасці.

«Засілкуйце дамы, якія цалкам электрафікаваныя, па асобнай схеме — ад мегаватнікаў. Засілкуйце! Казалі, б.., сто разоў, даручэнні былі дадзены, нідзе ні чорта не робіць! За вас за ўсіх працаваць хутка прыйдзецца самім. Дамагчыся выніку — неймаверная справа. Пачынаю дзядулю Сталіна разумець», — цытуюць Аксёнава крымскія СМІ.

У Крым перастала надыходзіць электраэнергія з мацерыковай Украіны, бо скончылася дзеянне кантракта на пастаўкі электрычнасці.

Аксёнаў узначальваў партыю «Рускае адзінства», якая збірала ў Крыме 4% галасоў. Тым не менш пасля анексіі паўвострава менавіта яго Масква паставіла кіраваць новай федэральнай адзінкай.

**Сяргей Гезгала**

## Цукерберг паставіў задачу на 2016 распрацаваць сабе робата-памочніка

Стваральнік фэйсбука Марк Цукерберг хоча распрацаваць робата, які б дапамагаў яму ў хаце і на рабоце.

Цукерберг штогод ставіць сабе нейкую новую задачу.

«Кагосьці кшталту Джарвіса з «Жалезнага чалавека», — напісаў Цукерберг, згадаўшы слугу са штучным інтэлектам з кіно.

**Сяргей Гезгала**



## Беларуска ўпрыгожыла японскі Vogue

Супермадэль Марына Лінчук, праводзячы навагоднія канікулы ў кампаніі блізкіх на мексіканскім курорце, прарэкламавала адтуль сваю свежую работу. Беларуская красуня ўпрыгожыла лютаўскі *Vogue Japan*. Пра гэта Марына апавясціла сваіх падпісчыкаў у інстаграм. Лінчук, мабыць, самая вядомая беларуска ў арміі сусветных топ-мадэляў.

**Чытайце: «Салідарнасць»**




# З Арлоўскім расправіліся за 54 секунды

У Лас-Вегасе на «MGM Grand Garden Arena» адбыўся бой у рамках турніру UFC 195, у якім беларускі баец Андрэй Арлоўскі сустракаўся з амерыканцам Шціпэ Міочычам.

Бой доўжыўся 54 секунды. Міочыч перахапіў ініцыятыву, пару разоў трапіў справа ў галаву і паклаў беларуса на канвас. Арлоўскі застаўся без абароны, і Стыпе нанёс яшчэ некалькі ўдараў зверху — рэферы Херб Дын зафіксаваў перамогу амерыканца тэхнічным накаўтам.

Гэта 11-е паражэнне Арлоўскага на прафесійным рынгу ў 37 баях і першая няўдача пасля вяртання ў UFC ў 2014-м.

**На сэрцы**

# Каб толькі ўзрушэнняў не было

Пазваніў я 1 студзеня сваёй былой суседцы. Наша сям'я многім ёй абавязаная, так сталася. Павіншаваў, пажадаў добрага здароўя і што там яшчэ на Новы год зычаць. Абышоў усе змрочныя тэмы. Усё, як штогод.

І табе таго ж, Мікола, адказала яна — яна на гадоў 20 за мяне старэйшая. «І галоўнае, каб у нас не было ўзрушэнняў. Ну ты разумееш, пра што я», — падкрэслена сказала яна.

Узрушэнняў — гэта значыць, рэвалюцыі, майдану, нестабільнасці. Іменна тыя ўзрушэнні, ад якіх засцерагае ТВ і радыё.

Яна ведае, што раблю ў «Нашай Ніве» і погляды нашай сям'і ведае. Таму, вядома, гэта быў намёк. Можна было мне адказаць: «Так, не дай бог Пуцін новую вайну пачне». Або «так, гэтыя дэвальвацыі рост цэн ужо невыносныя». Але прамаўчаў я.

У гэтай жанчыны адзін сын сёлета трапіў у турму за наркотыкі. Рабіць не хацеў, хацеў лёгкага заробку. І ўзялі балбеса ў першы ж месяц «дылерства».

А дачка кінула двухгадовае дзіця на дзеда-бабу і паехала на заробкі ў Маскву. І ўжо тры гады не паказваецца дома. Толькі па скайпе звоніць. Грошы зарабляе, не хоча адрываца.

Якіх яшчэ ты ўзрушэнняў баішся, жанчына? Што табе яшчэ горшага можа стацца ў жыцці? Твайму сыну свеціць 15 гадоў. Твая дачка занятая сабой. У цябе канец свету здарыўся дома, а ты ўсё молішся, каб не было «ўзрушэнняў», хрысцішся, калі праязджаеш у замерзлым аўтобусе каля неатынкаванай, новай праваслаўнай царквы.

**Мікола Бугай**

## У Баранавічах дзяўчына павіншавала чалавека на вуліцы з Новым годам і атрымала ў лоб

Здарэнне адбылося раніцай 1 студзеня.

«Дзяўчына віншавала мінакоў з Новым годам. Крыкнула віншаванне і мужчыну, які ішоў па другім баку вуліцы. Той у адказ на гэта падышоў да яе і ўдарыў у лоб», — паведаміў Святаслаў Бармоцін, намеснік начальніка Баранавіцкага міжраённага аддзела Следчага камітэта. За дзяўчыну заступіўся хлопец, які быў з ёй. Хуліган ударыў і яго. Пацярпелыя звярнуліся ў міліцыю.

Хулігана — 27-гадовага жыхара Баранавіч — затрымалі супрацоўнікі Дэпартамента аховы. Гараджанін быў п'яны. У дачыненні да яго распачатая крымінальная справа.

**Чытайце: баранавіцкі сайт intex-press.by**

**Прыватныя абвесткі**

**Спачуванні Ірыне Кашталян**
Выказваем спачуванні Ірыне Кашталян з прычыны смерці мамы.



## Тэлеканал «Расія» адцэнзураваў вядомы кадр у фільме «Брыльянтавая рука»?

Прэс-сакратар «ВГТРК» (Усерасійская дзяржаўная тэлевізійная і радыёвяшчальная кампанія) Вікторыя Аруцюнава абвергла рэдактуру фільма «Брыльянтавая рука», паведамляе «Эхо Москвы» ў пятніцу, 1 студзеня.

Аруцюнава сказала, што «ўважлівым гледачам варта ў наваголднюю ноч менш піць і больш закусваць». Як паведамляе «Эхо Москвы», прэс-сакратар холдынгу адмаўляе прэтэнзіі ў рэдактуры фільма.

У эпізодзе, дзе герой Андрэя Міронава, апынуўшыся на востраве на водмелі Чорнага мора, паклікаў на дапамогу і ўбачыў хлопчыка, які спакойна ішоў па мелкаводдзі, над галавой падлетка з'яўляецца німб. Увечары ў чацвер, 31 снежня, гледачы тэлеканала «Расія» заўважылі, што замест німба над галавой хлопчыка была толькі светлая пляма.

# Беларус сенсацыйна перамог на самым прэстыжным турніры сусветнага муай-тай

У панядзелак, 28 снежня, у тайскай Патаі адбыўся галоўны гадавы турнір прамоўшна *Top King World Series* у сярэдняй вазе (70 кг). Па выніках года сюды паставілі біцца беларуса Дзмітрыя Варца.

У першым жа двубоі наш хлопец нечакана для многіх накаўтаваў знакамітага тайскага прафесіянала Кема Сітсангпінонга.

Але галоўнае выпрабаванне чакала Варца наперадзе. У фінале беларус сышоўся з Хаялам Джаніевым.

Дзмітрый здолеў спыніць магутны напор саперніка і завабіць яго ў сваю гульнявую манеру вядзення бою. Суддзі аддалі перамогу Варцу пасля дадатковага раўнда.

Дзмітрый Варац пераважна жыве ў Гродне, але трэніруецца ў знакамітага беларускага спецыяліста Юрася Булата ў клубе *Bulat Gym*. Цікава, што трэнер пераважна вядзе свае старонкі ў сацсетках пабеларуску.



Трэнер абдымае свайго гадаванца.

**Еўрарадыё**

### Жарт

Што вы бачыце на гэтым фота? Некаторыя кажуць, што гэта сапраўдны тэст на нацыянальнасць. Адны бачаць камяні, другія — бульбу, трэція — буракі.



## У Мінску затрымалі расіяніна з калашнікавым

Напярэдадні святаў міліцыя канфіскавала ў грамадзяніна Расіі, што жыў у Мінску, аўтамат Калашнікава і 152 патроны рознага калібра.

Расіянін 1966 года нараджэння затрыманы. Мужчына нідзе не працуе. Мае пасведачанне на права жыхарства ў Беларусі. Затрымалі яго па месцы жыхарства.

Боепрыпасы і аўтамат знаходзіліся ў аўтамабілі расіяніна. Машына стаяла ў паркінгу.

Па гэтым факце заведзеная крымінальная справа за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў. Мужчыну пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

**СГ**

## У ЗША бацька-геймер задушыў свайго сына

Дзеці перашкаджалі тату гуляць у камп'ютарныя гульні.

Жыхар амерыканскага штата Флорыда 31-гадовы Джэймс Дырман забіў свайго шасцігадовага сына з-за відэагульні. Інцыдэнт адбыўся напярэдадні Калядаў, паведамляе *Sky News*.

Як распавяла паліцыі сяброўка затрыманага, мужчына адправіў сваіх двух сыноў спаць, аднак тыя працягвалі шумець. Тады бацька вырашыў пакараць дзяцей, загадаўшы ім стаць каля сцяны і адвярнуцца. Аднак, заўважыўшы, што малодшы сочыць за тым, як ён гуляе, Дырман раззлаваўся.

Мужчына паваліў хлопчыка на канапу і сеў на яго, прыціснуўшы яго тварам да падушак. Бацька працягваў гуляць, ігнаруючы енкі сына. У выніку дзіця задушылася. Усё адбылося на вачах старэйшага брата.

Калі пара выявіла, што дзіця не дыхае, яны патэлефанавалі ў службу выратавання, аднак было запозна.

Шэрыф акругі назваў забойства «абуральным і подлым». Дырмана чакае суд.

### Маю прапанову

## «Неразумна, што білеты на электрычку можна купіць толькі на канкрэтны дзень»

У мароз вырашылі не карыстацца машынай, ездзім на работу ў Мінск на электрычцы. Заўважылі адзін момант.

Білет на звычайную электрычку можна купіць толькі на канкрэтны дзень. У выніку даводзіцца кожны дзень стаяць у чаргу ў касу.

Уяўляеце, колькі працоўнага часу касірак эканомілася б, каб мы купілі сабе адразу 20 білетаў і выкарыстоўвалі па меры патрэбы, а не стаялі штодзень у касу.

Білеты на гарадскую электрычку, дарэчы, прадаюцца бездаднасна дня і білеты на транспарт у горадзе — таксама. Продаж білетаў на звычайныя электрычкі на канкрэтны дзень — проста перажытак нейкі. Адмена гэтага правіла дазволіць чыгунцы эканоміць.

Адзначу таксама, што цэны на білеты, на маю думку, неапраўдана нізкія. Што гэта такое, што са Ждановіч да Мінска можна даехаць за 2600? Як так можа быць, што білет на трамвай у горадзе каштуе 5000, а электрычка з-за горада — удвая менш? Думаю, сабекошт не можа быць такім нізкім, значыць, недзе ўсе людзі з уласнай кішэні дацыруюць. Лічу, што гэта няправільна. Людзі тады цэняць паслугу, калі плацяць за яе сапраўдную цану.

**Віктар, Ждановічы (Мінскі раён)**

**Ад Рэдакцыі.** Праблема — у сістэме кантролю. Яна пакуль неразвітая. У іншых краінах чалавек абавязаны пракампасціраваць білет на прыгарадны цягнік або ў вагоне, або на ўваходзе на перон. У нас такой сістэмы няма. А без увядзення кампасцераў білетамі без даты можна злоўжываць.

### Кіно

## Ці можа геніяльны чалавек быць добрым?

Стыў Джобс
**Жанр:** біяграфічная драма
**Рэжысёр:** Дэні Бойл
**У ролях:** Майкл Фасбендэр, Сэт Роген, Джэф Дэніэлс, Кейт Уінслет, Майкл Стулбарг, Кэтрын Уотэрстан
ЗША, 122 хв.
**Адзнака:** 7

У аснове біяграфічнай драмы ляжыць гісторыя жыцця заснавальніка *Apple* Стыва Джобса. Сюжэт грунтуецца на трох знакавых прэзентацыях кампаніі, кульмінацыяй якіх стаў 1998 год — прэм'ерны паказ *iMac*. Ён дэманструе ўнутраную кухню *Apple* — прадвесніка будучай лічбавай рэвалюцыі, а таксама моманты асабістага жыцця Стыва Джобса — галоўнага чалавека ў кампаніі.

Сцэнар фільма заснаваны на кнізе Уолтара Айзексана «Стыў Джобс». Ааран Соркін, сцэнарыст «Сацыяльнай сеткі» (стужка 2010 года пра Марка Цукерберга, заснавальніка *Facebook*), стварыў сцэнар для фільма з трох частак. Яны ахопліваюць 14 гадоў жыцця Стыва Джобса.

Усе сцэны паказваюць драматычныя закулісныя падзеі перад запускам знакавых прадуктаў *Apple* (*Macintosh* у 1984, яго абноўленая мадэль у 1988 і *iMac* у 1998).

Падзеі адбываюцца на дзвюх пляцоўках: у рэстаране (дзе ў Джобса бяруць інтэрв'ю) і гаражы (дзе ён распрацоўвае свае прадукты), з некалькімі флэшбэкамі, якія адсылаюць да важных падзей біяграфіі.

Рэжысёр фільма Дэні Бойл падтрымаў трохактавую структуру фільма: «Калі вы абмяжоўваецеся ключавымі момантамі, то можаце расказаць пра чалавека крыху больш». Акрамя таго, ён заявіў, што не імкнуўся зрабіць Майкла Фасбендэра, выканаўцу галоўнай ролі, копіяй Стыва Джобса: «Мы выкарысталі падчас здымак некалькі парыкоў і трохі змянілі колер яго вачэй, бо я хацеў, каб у яго быў той жа колер вачэй, што і ў трох актрыс, якія ігралі яго дачку Лізу. Вы павінны бачыць у ёй яго «працяг». Але ніякага накладнога грыму».

Кансультантам стужкі стаў былы бізнэс-партнёр Джобса Стыў Возняк, аднак прачытаць фінальную версію сцэнара ён адмовіўся з этычных меркаванняў. Фільм Бойла яму падаўся жывейшым за папярэдні баёпік пра Джобса, які выйшаў у 2013 («Джобс», у галоўнай ролі Эштан Кутчэр).




Аднак у амерыканскім пракаце фільм фактычна праваліўся. Ён аказаўся скіраваным на вузкую аўдыторыю абазнаных фанатаў і даволі панылым для шырокай публікі. Затое на фестывалях стваральнікі спадзяюцца атрымаць некалькі ўзнагарод.

**Настасся Уласава**

# Большасць праваслаўных цэркваў святкуюць Раство 25 снежня. Чаму б і Беларусі не перайсці на новаюліянскі каляндар?

25 снежня Раство (Нараджэнне Хрыстова, Каляды) святкуюць не толькі каталікі і пратэстанты. А таксама большасць праваслаўных кананічных (г.зн. класічных) цэркваў.

Так, **25 снежня** Раство святкуюць Канстанцінопальская (апроч Афона), Албанская, Антыяхійская, Александрыйская, Кіпрская, Балгарская, Румынская, Чэшская і Славацкая, Эстонская апостальская, Эладская (Грэчаская) праваслаўныя цэрквы.

**7 студзеня** Раство святкуюць кананічныя Руская, Сербская, Ерусалімская, Грузінская цэрквы, УПЦ Кіеўскага патрыярхата, некананічныя Македонская, Чарнагорская, шэраг праваслаўных экзархатаў у ЗША, Беларуская аўтакефальная, а з 2014 г. Польская аўтакефальная праваслаўная, грэчаскія старастыльнікі. 7 студзеня Раство святкуюць украінскія і расійскія грэка-каталікі.

Вялікдзень гэтыя цэрквы адзначаюць паводле юліянскага календара.

Адметна, што праваслаўныя цэрквы, што святкуюць Раство 25 снежня, карыстаюцца не грыгарыянскім календаром, а новаюліянскім, распрацаваным у 1923 г. прафесарам матэматыкі і нябеснай механікі Бялградскага ўніверсітэта, астраномам Мілуцінам Міланкавічам.



Ці пры жыцці гэтых дзяцей Хрыстос перастане нараджацца ў розныя дні?

Да 28 лютага 2800 г. новаюліянскі каляндар будзе супадаць з грыгарыянскім.

Цікава, што ў 1923 г. патрыярх Ціхан увёў у РПЦ новаюліянскі каляндар, але незадавальненне ў царкве вымусіла патрыярха адкласці рашэнне на няпэўны тэрмін.

Мажліва, праваслаўным у Беларусі (якія карыстаюцца юліянскім календаром) таксама было б варта перайсці на новаюліянскі каляндар, каб Каляды адзначаць з усім светам 25 снежня, а Вялікдзень — паводле юліянскага календара?

Безумоўна, усё ўпіраецца ў пазіцыю РПЦ, якая фактычна кіруе беларускімі прыходамі ў краіне. А як там вырашаць, так і будзе.

**Алег Гардзіенка**

# Каляды ў сталіцы вачыма хлопца з Докшыцкага раёна

Піша **Кастусь Шыталь**.



На Божае Нараджэнне я паехаў у Менск. Апошнія гады я святкую Раство ў сталіцы, дзе многа сяброў, дзе ёсць да каго прыйсці ў госці, дзе не будзе бракаваць сяброўскай цеплыні.

Настрой зусім не калядны і не навагодні. Снегу няма. Прыгадваю — чытаў на старонках старых газет, — што гэткія самыя бясснежныя Каляды былі ў 1935 годзе. А ў лютым ударылі такія маразы, што сталі замярзаць рухавікі ў дызельцягніках, якія той зімой першы раз пусцілі з Вільні на Глыбокае. Польская чыгунка тады адмяніла цягнікі. Кажуць, што цяпер клімат мяняецца — але і даўней усякае было.

Але цешыць памяць пра тую падзею, што святкуем 25 снежня. Бог так моцна палюбіў чалавека, што... Сам стаў чалавекам, каб чалавека, згубленага ў сваіх грахах, нянавісці, смутку і горычы, знайсці і ўратаваць. Самая вялікая радасць у жыцці — памятаць, які ты блізкі і які каштоўны для Усёмагутнага Бога.

Прыехаў, прабегся па аптэках — па лекі, ды па крамах і шапіках — за падарункамі і прысмакамі для сяброў.

Пайшоў начаваць, як звычайна, да Барыса і Надзеі — сям'і, якая вызнае евангельскую веру і беларускую ідэю.

Міла бачыць дзетак іх — трохгадовага Вітаўта і двухгадовую Караліну. Бегаюць, скачуць, гуляюць, смяюцца. «Караліна, пакажы, дзе гадзіннік». — «Во гадзіннік». — «А дзе жук?» — «Ты жук!» — «А хто вусень?» — гэта пяшчотныя сямейныя абзывалкі. Па-беларуску размаўляюць і дзеці, і бацькі.

На менскай вуліцы як на вясковай: як выйдзеш — абавязкова сустрэнеш знаёмага. На Незалежнасці спаткаю Зміцера, грамадскага актывіста і пратэстанцкага верніка. Слова за слова, пачынаецца тэалагічны дыспут, і даводзіцца выцягваць — не, не меч — Біблію. Цытую шосты раздзел Евангелля паводле Яна, дзе Ісус кажа, што дае Сваё Цела і Кроў на спажытак вернікам. Я разумею гэта літаральна — што падчас Літургіі мы прымаем Цела і Кроў Хрыста, а Зміцер кажа, што гэта метафара, якую належыць успрымаць у пераносным сэнсе. Сканчваем тым, што віншуем адзін аднаго з Раством і разыходзімся.

Надзея ад самага ранку рыхтуецца да калядная вячэры. Дома ў іх збярэцца супольнасць вернікаў-пратэстантаў, пятнаццаць чалавек — трэба нагатаваць святочных страваў на ўсіх. Мне дужа хацелася пабыць з гэтымі светлымі людзьмі, з якімі сустракаў Раство ў мінулыя гады.

Але тады засталася б адна мая сяброўка Люда, якая ляжыць у шпіталі. Выбар цяжкі, але ж Хрыстос ішоў да тых, хто пакутуе, і я, хрысціянін, мушу ісці. Люда просіць, каб прывёз аплатак і селядцоў, дык забягаю па дарозе ў касцёл і ў краму.

Затор на дарозе катастрафічны. Два прыпынкі аўтобус едзе дваццаць хвілін.

Сустракаемся ў кавярні, побач са шпіталём. Замаўляем ежы, ламаемся аплаткамі, размаўляем. Якая-ніякая, але калядная вячэра. Касцёла паблізу няма, заходзім памаліцца ў праваслаўную царкву. Часта бываю тут, люблю гэты храм — велічны, упрыгожаны мазаікай, дзе сустрэнеш людзей рознага веку са светлымі тварамі, а манашкі анёльскімі галасамі спяваюць псальмы.

Мова малітваў — царкоўнаславянская — прыгожая, але цяжкая да разумення простаму чалавеку.

Хвілін дваццаць моўчкі размаўляю з Богам, раз-пораз падымаю галаву, каб убачыць пад скляпеннем выяву Хрыста Збаўцы ў атачэнні анёлаў.

Бягом да прыпынку, паспяваю заскочыць у аўтобус. Менш чым праз гадзіну пачнецца імша Вігіліі Божага Нараджэння ў Чырвоным касцёле. Поўна людзей, далёка ўнутр не пройдзеш. Спыняюся ў канцы, каля шапікаў з рознай касцельнай атрыбутыкай. Маліцца тут цяжкавата. Алтар не бачны за спінамі, а людзі снуюць туды-сюды.

Затое сустракаю некалькіх знаёмых — вітаемся, віншуем адзін аднаго.

Калі святары пачынаюць раздаваць Камунію, людзі валам валяць на двор. Многа такіх прыходзяць у касцёл два разы на год — калі яйкі свенцяць і калі гірлянды на ёлках свецяць.

Прыйшлі на свята Хрыстовага Нараджэння, а сустрэчы з Хрыстом, які не толькі стаў Чалавекам, але і стаў Хлебам, каб быць блізка да людзей, — пазбягаюць. Шкада іх мне, але Хрысту іх болей шкада.

Перад уваходамі ў храм стаяць міліцыянты. Прычапіліся да мяне, праверылі, што ў заплечніку. Добра, хоць паводзяць сябе карэктна. Але навошта яны тут? З Ісламскай дзяржавай мы не ваюем, вернікаў ніхто не расстрэльвае і не падрывае.

Гэта ў Нігерыі, Іраку, Сірыі сёння людзі збіраюцца на набажэнствы і разумеюць, што іх могуць забіць...

Пасля Імшы да міліцыянтаў падыходзяць дзяўчаты, з усмешкай прапануюць калядныя аплаткі. Тыя адмаўляюцца. «Мы на службе...» Дзяўчата нейкае, дый толькі.

Спускаюся ў капліцу ў сутарэнні касцёла, каб хвілін дзесяць памаліцца ў цішыні і самоце. Пасля выходжу, праз падземеллі метро дабіраюся да кватэры, ключы ад якой пакінулі мне сябры, а самі паехалі да сваякоў у вёску. Тэлефануе сяброўка Волечка: «Жадаю табе, Кастусю, радасці, супакою і каб знайшоў добрую жонку». Люблю такія простыя віншаванні, якія з глыбіні добрага сэрца паходзяць.

Гляджу праз акно на агні горада. Сям-там у дварах выбухаюць феерверкі. Са святам, сябры! Са святам, менчукі!

Са святам, беларусы! Бог прыйшоў на зямлю шукаць чалавека. Дык не хавайцеся! Дазвольце Богу знайсці вас.



Каторы раз спраўджваецца старая прыкмета: калі каталіцкія Каляды ў водзе, то праваслаўныя — у лёдзе. І наадварот.

На сэрцы

# «Я, можа, апошні чалавек, які памятае Новы год як Васілле»



Піша **Святлана Курс**.

«Пабяжы, Светка, праз сенцы, ды глядзі, каб дамавік не ўкусіў, ён у муцэ спіць, і зірні нішкам, ці ёсць жа там зоркі. Колькі зорак — столькі і канхвет дадуць», — казалі мне старыя людзі, што прыходзілі «гуляць» у нашу старую хату.

Мы былі першай сям'ёй з тэлевізарам, слепаватым і чорнабелым (хутчэй, зеленавата-белым).

Пішу вам і ўспамінаю сцэны з маіх двух-трох год. Як прывялі на тэлевізар 100-гадовага дзядка, якому, тым не менш, «свяцілі вочы», і радаваліся, тыцкаючы пальцам у «Лебядзінае возера»: «Глянь, Костусь, чэрці скачуць. Бачыш, Костусь?» Што на тое Костусь адказваў, не памятаю, але гэта ён мне расказаў, што насамрэч крумкачы крычаць «кроў, кроў, кроў!», і асабліва трэба ўважаць, калі крумкачы збіраюцца па трое.

Я, можа, адзіны чалавек, які памятае Новы год як Васілле. Звязка «Васілле — халодныя сенцы — дамавік — зоры», імаверна, жыве толькі ў маім мазгу. Праз гады чытаю: «Калі на Новы год — Васілле — сыплюцца снежныя крупы, увесь тыдзень зіма можа быць марозная. Калі ў гэты дзень туманнае кола вакол сонца, хмары ідуць супраць ветру і певень цягне хвост па зямлі, то прыйдуць снегапады і мяцеліцы. Туманы напярэдадні Васілля — на ўраджай; зорная Васілёва ноч — багатыя палеткі на лета».

Хоць і цікава мне, ці цягне сёння певень хвост, няма як даведацца і спытаца няма ў каго. Вы не ведаеце, ці цягне певень хвост, ці шмат зор? Над Варшавай неба такое, нібыта на нас баба прысела ў брусьнічным андараку. Зрэшты, халодныя сенцы ў мяне ёсць, спецыяльна купіла хату, з якой выходзіцца проста на вуліччую галерэю. З яе вам і шлю прывет.

## Пішуць чытачы

### У Гродне з'явіўся абразлівы надпіс на адрас украінцаў

У Гродне на прыпынку «Вуліца Дамброўскага» з'явіўся абразлівы надпіс на адрас украінцаў. Надпіс застаецца незафарбаваным ужо некалькі дзён, паведамляе чытач «Нашай Нівы» Сяргей Г. (фота ёсць у Рэдакцыі).

### Мова нас не выратуе?

Швецыя прымушае нас думаць. Глупства бачна праз наступства, асабліва за часам. Цяжка сказаць дзякуй лётчыку з мядзведзямі. Адказ Святлане Алексіевіч: мова нас не выратуе. Выратуюць розум і рукі. Мова робіць нас адметным народам. А некаторыя жывуць і паміраюць так — чырвонымі чалавечкамі.

**Сяргей Рыбчонак**

## Прыватныя абвесткі

**Удаве пастара трэба работа**

9 снежня памёр беларускі пастар і хрысціянскі блогер Юрый Смірноў. У сям'і ён быў адзіным здабытчыкам. Яго ная жонка, якая даглядала хворага пастара, цяпер мае патрэбу ў працаўладкаванні. Прыме любую працу для жаночых рук, якая забяспечыць яе і сына. Просім дапамогі! Тэлефоны для кантакту: (029) 771-41-49 (Алена)

**Сябры**

# Печы забіраюць жыцці

За першыя шэсць гадзін новага года адбылося 14 пажараў! За першыя суткі — каля сарака!

Усплёск пажараў з гібеллю людзей ратавальнікі звязваюць з маразамі. Як адзначаюць у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, у катэгорыю рызыкі трапляюць жыхары прыватных дамоў.

Асаблівую небяспеку ўяўляюць катлы ў недастаткова ўцепленых памяшканнях. Пры рэзкім паніжэнні тэмпературы паветра ўзнікае рызыка замярзання трубаправодаў у асобных памяшканнях. Вада спыняе цыркуляваць, што рэзка павышае ціск у катле, а гэта можа прывесці да выбуху.

Ратавальнікі заклікаюць уладальнікаў прыватных дамоў ставіцца ў гэтыя дні з асаблівай увагай да сваіх ацяпляльных сістэм, рэгулярна кантраляваць іх працу.

Іншая прычына пажараў — перагрэў печаў.

Аднак да пажару вядзе і банальнае курэнне.

Так, паведамленне аб першай у новым годзе надзвычайнай сітуацыі паступіла хутка, ажно ў 0.10. Загарэўся дом у вёсцы Апечкі Стаўбцоўскага раёна. У агні загінулі гаспадыня-пенсіянерка і яе сын. Меркаваная прычына пажару — курэнне сына.

Бліжэй да ранку паведамленне аб пажары прыйшло з вёскі Новыя Засімавічы, што ў Пружанскім раёне. Узгаранне пачалося на 4-м паверсе пяціпавярхоўкі, у пакоі агульнага карыстання з балконам, што выкарыстоўваўся для сушкі бялізны. Падраздзяленнямі МНС з палаючага чацвертага і пятага паверхаў было выратавана 16 чалавек, з іх двое дзяцей.

Людзей выводзілі па лесвічных маршах з дапамогай масак для ратавання, дваіх чалавек здымалі з верхняга паверха з дапамогай драбінаў. З кватэр пад'езда таксама было эвакуявана 26 чалавек. І ў гэтым выпадку агонь, хутчэй за ўсё, узнік з-за курэння.

Раніцай 2 студзеня адбыўся пажар у вёсцы Чэрніхава. Двухкватэрны жылы дом загарэўся прыкладна ў 5.30. У агні загінуў 61-гадовы гаспадар адной з кватэр. У прычынах разбіраюцца.

Самае страшнае, калі гінуць дзеці. Вось і ў пажары ў Буда-Кашалёўскім раёне, у вёсцы Покапаўка, загінулі 3-гадовы хлопчык і 9-гадовая дзяўчынка. Разам з імі згарэла і 37-гадовая жанчына, жонка гаспадара дома, яна ж маці таго 3-гадовага хлопчыка.

УШ

## Ланцуг продажу марыхуаны выявілі ў Мінску

Трох мужчын «узялі» з марыхуанай у Цэнтральным раёне сталіцы. Адзін з іх аказаўся асобай рознабаковай.

Першым быў затрыманы 31-гадовы нідзе не працуючы жыхар Цэнтральнага раёна сталіцы — наркаман. Малады чалавек спрабаваў схавацца ад праваахоўнікаў у гаражным кааператыве, дзе ў сваёй аўтамашыне, у тайніку, хаваў набыты пакецік з марыхуанай вагой каля 3 грам.

У ходзе далейшага правядзення спецаперацыі быў затрыманы 36-гадовы нідзе не працуючы мінчук, які арганізаваў збыт наркотыку. Па месцы жыхарства затрыманага была знойдзена марыхуана, якую ён не паспеў рэалізаваць. Наркотыкі на рэалізацыю яму пастаўляў жыхар Курасоўшчыны — 31-гадовы гаспадар аднаго са сталічных салонаў тату. Цікава, што мужчына таксама пазіцыянаваў сябе як фатограф і кампазітар песень у стылі рэп, паведаміла Таццяна Абозная, прэс-афіцэр Цэнтральнага РУУС Мінска.

Дома ў гэтага чалавека выявілі больш за 65 грам марыхуаны ў трохлітровым слоіку.

31-гадоваму распаўсюдніку марыхуаны пагражае да пяці гадоў пазбаўлення волі, а мінчукі, якія арганізавалі рэалізацыю наркотыку, могуць сесці на тэрмін да 15 гадоў.

У некаторых краінах свету марыхуана прыроўненая да алкаголю, легальная, але ў Беларусі яна лічыцца такім жа наркотыкам, як усе іншыя. Закон ёсць закон, і яго трэба выконваць.

УШ

## Настаўніцу так і не знайшлі

У Брэсце працягваюцца пошукі зніклай настаўніцы. Распачата крымінальная справа.

Валянціна Голуб, настаўніца геаграфіі з мясцовай школы нумар 9, знікла яшчэ 22 снежня. Жанчына выйшла з працы каля 14.00, і больш яе ніхто не бачыў.

На наступны дзень муж звярнуўся ў міліцыю. Але пошук нічога не даў. І вось, міліцыя распачала крымінальную справу.

Калі хтосьці валодае інфармацыяй аб месцазнаходжанні жанчыны, неадкладна паведаміце ў міліцыю (па тэл. 102 ці (029) 527-76-89 альбо ў атрад вышуку «Анёл» (тэл. (033) 666-60-33, (033) 698-94-27).

Прыкметы: рост каля 170 см, зялёныя вочы, русыя валасы. Была апранута ў чорнае паўпаліто, цёмны пінжак, белую блузку ў чорныя гарохі, чорную спадніцу і светлыя боты.

УШ

## «Ды гары яно гарам!»

Так усклікнуў жыхар Валожыншчыны перад тым, як падпаліць уласны дом.

Жыхар Ракаўскага сельсавета святкаваў свой 61-ы дзень нараджэння ў кампаніі сваёй сужыцелькі. У разгары застолля паміж імі адбылася сварка. Імяніннік усклікнуў: «Ды гары яно ўсё гарам!» Збегаў па каністру з бензінам, выліў яго пасярод пакоя і кінуў запалку.

У выніку гэтага вар'яцтва дом і ўся маёмасць згарэлі цалкам.

Жанчына страціла ўсё, яе часова ўзялі да сябе сваякі. А мужчына чакае рашэння суда па артыкуле аб знішчэнні маёмасці агульнанебяспечным спосабам. Яму пагражае да 10 гадоў турмы.

УШ

## Сцісла

### Загінуў на рабоце

28 снежня рулон металу забіў маладога рабочага на заводзе «Брэстгазаапарат». Прычыны здарэння высвятляюцца. У горадзе кажуць, што хлопец неасцярожна стаяў пад рулонам падчас ягонага транспартавання.

### Праявілі пільнасць

У цэнтры Мінска днём 30 снежня былі ачэпленыя Міхайлаўскі сквер і вуліца Ленінградская, што каля чыгуначнага вакзала. Людзі там знайшлі сумку з гайкамі, балтамі і адзеннем — мусіць, яе нейкі рабочы забыўся ў скверы. Выклікалі міліцыю, сапёраў. Але выбуховага рэчыва так і не знайшлі.

### Першая ахвяра зімы

У Асіповіцкім раёне замерз пенсіянер. Цела мужчыны знайшлі днём 29 снежня ў полі. Праводзіцца праверка.

### Новы год сустрэў пад вартай

Перад святамі быў затрыманы начальнік інспекцыі Дэпартамента кантролю і нагляду за будаўніцтвам па Мінску Яўген Жыжаль. У дачыненні да яго заведзена крымінальная справа за хабар.

### Падазраюць у забойстве

38-гадовага жыхара Бабруйска затрымалі па падазрэнні ў забойстве жанчыны і яе 7-гадовага сына. Матыў і дэталі трагедыі высвятляюцца. Мужчыну можа пагражаць смяротнае пакаранне.

### Выпіў і паехаў…

Увечары 1 студзеня п'яны кіроўца насмерць збіў жанчыну на выездзе з Мінска на гродзенскай трасе. Вінаватага ўдалося аператыўна вылічыць дзякуючы відавочцу, які запомніў марку аўто. Мужчыну затрымалі за 1,5 км ад месца здарэння, у вёсцы Тарасава. Аказалася, кіроўца п'яны ў зюзю. А жанчына была маладая, усяго 34 гады.

### Згарэла новая машына

«Таёта RAV4» 2015 года згарэла ў навагоднюю ноч у Мінску. Прычына агню — неасцярожныя паводзіны з пІратэхнікай.

### Не давёз ялінку

30 снежня ў Слуцкім раёне мікрааўтобус збіў 70-гадовага дзядулю, які вёз на ровары ялінку. Мужчына сканаў на месцы. У дачыненні да кіроўцы машыны распачата крымінальная справа.

### Збіраў снарады на металалом

27 снежня ў вёсцы Забалоцце Асіповіцкага раёна 47-гадовы мужчына атрымаў сур'ёзныя траўмы пасля разрыву снарада.

Пацярпелы, імаверна, збіраў на палігоне металалом — у вёсцы гэтым займаюцца многія і даўно — і знайшоў неразарваны снарад.

Ногі яму ампутавалі да каленяў.

УШ



Кошт Урада

Беларуская сацыяльна-арыентаваная мадэль, здаецца, прывяла да фарміравання ў грамадзян своеасаблівай формы комплексу непаўнавартасці: усе мы адчуваем сябе ў незваротным даўгу перад дзяржавай. Вядома, бо за сціплых 13% падаходнага падатку мы атрымліваем танны праезд і камуналку, ільготнае жыллё, тры гады аплочанага дэкрэту і іншыя “бясплатныя” паслугі. Аднак рэчаіснасць далёкая ад гэтай ідылічнай карцінкі. Насамрэч мы за ўсё плацім па поўнай – і нават больш.

59% падатковых даходаў кансалідаванага бюджэту Беларусі забяспечваецца за кошт падаходнага падатку, акцызаў і ПДВ.





Большая частка гэтых падаткаў кладзецца на плечы грамадзян.

Падрабязней чытайце на сайце
www.koshturada.by

# Самая душэўная краіна Еўропы

Піша **Зміцер Панкавец**.


Аўтар на прыступках храма Бом-Жэзуш, блізу Брагі.

**Партугалія**

краіна на захадзе Еўропы (каля Іспаніі).

Яе плошча — 92 тыс. кв км (Беларусь удвая большая — 207 тыс.).

Яе насельніцтва — 10,5 млн жыхароў (у Беларусі 9,5 млн).

Яе палітычны лад — дэмакратыя (у Беларусі дыктатура).

Яе цывілізацыйны выбар — Еўрасаюз (у Беларусі Еўразійскі саюз).

Яе дабрабыт — ВУП на душу насельніцтва ў Партугаліі ў 3 разы вышэйшы, чым у Беларусі. Пералічаны па парытэце купчай здольнасці — у 1,5 раза вышэйшы, чым у Беларусі.


На мысе Рока заўсёды дзьме пранізлівы вецер. Тут сканчваецца Еўропа.

Першае, што кідаецца ў вочы, калі прыязджаеш у Партугалію, — гэта плітка. Азулежу — партугальская кафля, якой упрыгожваюць дамы, цэрквы, вакзалы. Назва пайшла ад слова «азул» — светла-сіні, лазуравы.

З невялікіх плітак памерам 14 на 14 сантыметраў утвараюцца мазаікі з важнымі гістарычнымі падзеямі, з аблічамі святых, эмблемамі любімых футбольных клубаў. У нас такой пліткай прынята выкладваць толькі ванныя пакоі, а ў Партугаліі ўсё на свеце. Выглядае сапраўды прыгожа і незвычайна.

А яшчэ варта спыніцца на брукаванцы, бо ў кожным горадзе і мястэчку паўсюль свой арыгінальны ўзор, ніякіх паўтораў, ніякага шаблону. Вось Партугалія — яна такая. Хай крыху абшарпаная, але непаўторная. Шмат чаго вы не знойдзеце больш нідзе, акрамя як у Партугаліі.

У мяне часта пытаюцца: ці варта ехаць у Партугалію на адпачынак? Безумоўна, так. Партугалія — гэта прыемнае спалучэнне цаны і якасці, вялікай гісторыі і каларыту сённяшніх дзён. Гэтая краіна нікога не расчароўвае.

### Як дабрацца?

Партугалія для нас — край няблізкі. Прамых рэйсаў на самы захад Еўропы няма ні з Беларусі, ні з Літвы. Калі ляцець з Мінска, то найлепш карыстацца паслугамі галандскай кампаніі KLM. Білеты з перасадкай у Амстэрдаме ці Парыжы можна знайсці ў раёне 220 еўра ў два бакі.

З Вільні можна дабрацца нашмат танней, дзякуючы найбольш раскручанаму еўрапейскаму лаўкосту *Ryanair*. Калі ўдала падбераце даты і месцы стыкоўкі, то цалкам рэальна ўкласціся ў 100 еўра туды-назад. Перасядка, хутчэй за ўсё, будзе ў Брусэлі, Хане ці Парыжы. Перасядак баяцца не варта, нават калі часавы прамежак паміж рэйсамі не вельмі вялікі, бо ўсе гэтыя аэрапорты маленькія (не асноўныя ў гарадах) і вы без праблем паспееце на патрэбны рэйс. *Ryanair* лётае ў Лісабон, Порту і Фару.

Ёсць яшчэ варыянты прамых вылетаў з Кіева з авіякампаніяй МАУ. Магчыма злавіць акцыю ў межах 100 еўра ў два бакі.

### Чым перасоўвацца?

Да аэрапортаў Лісабона і Порту з горада пракладзена метро. Дабірацца зручна і проста. Але вось з самой Партугаліі самалёты дадзеных рэйсаў вылятаюць вельмі рана, яшчэ да пачатку працы грамадскага транспарту, таму цалкам магчыма, што давядзецца патраціцца на таксі (у раёне 20—25 еўра ў Лісабоне і Порту, 10—15 — у Фару).

Як проці астатняй Еўропы, то метро, аўтобусы і трамваі ў Партугаліі не вельмі дарагія. Праезд у метро каштуе 1,40 еўра. Але ёсць такі варыянт, як сістэма запінгу. Для гэтага патрэбна купіць картку за 1 еўра і папаўняць яе грашыма. З такой карткай праезд абыдзецца ў 1,20 еўра. Картку потым можна абмяняць назад на грошы.

Прыгарадныя электрычкі па цэнах, канечне, немагчыма параўнаць з беларускімі, але, зноўку ж, па агульнаеўрапейскіх цэнах усё ўспрымаецца інакш. Калі за электрычку Мінск — Барысаў трэба заплаціць 10 тысяч рублёў, то за Порту — Брага (прыкладна гэткая ж адлегласць) у раёне 60 тысяч.

А вось хуткасныя цягнікі паміж вялікімі гарадамі — не самае таннае задавальненне. За білет па маршруце Фару — Лісабон давядзецца выкласці 21 еўра. Аўтобусам, вядома, танней, але не так зручна. Цягнікі і электрычкі ў Партугаліі сучасныя і вельмі камфартабельныя.

### Дзе жыць?

З танным жыллём у Партугаліі няма праблем. На *booking.com* ці іншых сэрвісах для пошуку гатэляў і хостэлаў вы абсалютна без цяжкасцяў знойдзеце дзясяткі варыянтаў па 20—35 еўра за двухмесны нумар у цэнтры горада. Гэта не будуць прасторныя апартаменты, да якіх звыкліся пакетныя турысты, што едуць у Турцыю і Егіпет, але свежая бялізна і асобны ванны пакой з душам забяспечаныя.

Нас шмат палохалі, што партугальцы зусім не разумеюць ангельскай мовы. Гэта няпраўда. У рэстаранах і гатэлях паразумецца па-англійску заўсёды можна. Вось у суседняй Іспаніі сапраўды было ўражанне, што цяжка знайсці чалавека, які б мог нават палічыць па-англійску да дзесяці.

Ну а зазывалы з рэстаранаў могуць і па-расейску, і па-польску з вамі паразмаўляць. Раша? Ноў! Польска? Ноў! На гэтым амаль усе завісаюць: адкуль жа прыехалі гэтыя турысты? Найбольш кемлівыя могуць згадаць Украіну.

### Што есці?

Партугальская кухня — гэта калі многа мяса, рыбы і зяляніны. З супоў найчасцей прапануюць суппюрэ, пры гатаванні якога не трэба асабліва замарочвацца. У кавярнях у абедзенным меню прапануюць на выбар суп ці салат, амаль заўсёды партугальцы бяруць гародніну.

Варта адзначыць адну характэрную дэталь партугальскіх кавярань і рэстаранаў. Перад асноўнай стравай вам прынясуць нейкія закускі. Гэта могуць быць алівкі, сардзіны, хамон, нават арэшкі, свежы хлеб. У Іспаніі гэта мог бы быць падарунак ад уладальніка месца, а вось у Партугаліі давядзецца заплаціць 1—3 еўра ў дадатак да асноўнага рахунка. Гасцінец афіцыянту ў Партугаліі вітаецца, але зусім не з'яўляецца абавязковым. Найчасцей мясцовыя акругляюць суму рахунку да бліжэйшага цэлага чысла. Калі рахунак, напрыклад, 9,45 еўра, то прынята пакідаць 10.

Безумоўна варта каштаваць рыбу. Тут яна паўсюль свежая і не надта дарагая, з чым я сутыкаўся ў Харватыі. Гэта і стэйк ласося, і дарада, і марскі акунь, і сардзіны, і васьміногі. У вельмі многіх месцах гатуецца рыба на грылі проста ў вас на вачах. У Порту немагчыма не пакаштаваць траскі, вялікую порцыю якой вам пададуць з бульбай і цыбуляй. Ядуць партугальцы і вяленую траску. Яна сушыцца дзе-нідзе ў крамах, нагадваючы нейкіх распластаных дагістарычных істот.

У Порту ёсць яшчэ адна фірмовая страва, якая называецца франсэзіня. У перакладзе азначае «маленькая француженка». Паміж кавалкамі хлеба размяшчаюцца тонка нарэзаныя кавалкі каўбасы, сасіскі і мяса. Зверху ўсё гэта загорнута ў плаўлены сыр і падаецца ў вострым соусе. Разбежка ў цэнах часам дастаткова вялікая — ад 4 да 12 еўра. Залежыць, ці гэта будзе на турыстычнай вуліцы, ці ў месцы, куды замежнікі выбіраюцца рэдка. Варта памятаць, што гэта ніякая не закуска, а паўнавартасная страва для дарослага мужчыны.

Нельга абыходзіць бокам партугальскія сыры і хлеб. Гэта тое, чым сапраўды ганарацца мясцовыя. Раіць нешта канкрэтнае абсалютна бессэнсоўна, бо і таго, і таго сотні відаў у залежнасці ад рэгіёна.

А вось што здзівіла, што ў супермаркетах практычна не было мясцовай садавіны. Амаль уся імпартуецца з Іспаніі. Відаць, там лепшы клімат для яе вырошчвання.

А самы вядомы партугальскі дэсерт — гэта паштэйш. Гэта такія піражкі з заварным яечным крэмам. Упершыню выраблялі іх сталі манахі-іераніміты ў Лісабоне яшчэ ў XVIII стагоддзі. А сёння паштэйшы ёсць у кожнай кавярні, у кожнай краме, на кожным базары. Каштуюць яны па-рознаму: ад 1 еўра за штуку ў турыстычных месцах да 1,5 еўра за ўпакоўку з 6 штук у супермаркеце.

### Што піць?

У Партугаліі дзясяткі відаў віна, кожны знойдзе сабе па смаку. Порту, даліна ракі Дору — гэта радзіма самага вядомага партугальскага алкагольнага напою партвейна. Мясцовыя тлумачылі, каб ніколі не бралі партвейн пад абед ці вячэру, бо ежай псуецца ўся духмянасць напою. Партвейн трэба піць асобна ад страў, няспешна, малымі глыткамі. Можна гледзячы на чырвоныя дахі Порту ці на плынь Дору. Ідэальны напой для гэтай краіны.

На поўначы (рэгіён Міньюо) яшчэ вельмі папулярным з'яўляецца «зялёнае віно» (Віньо Вэрдэ). Гэта віно не захоўваецца доўга, яго звычайна ўжываюць у першы год пасля прыгатавання. Асаблівасцю зялёнага віна з'яўляецца шыпучасць, такім чынам яго нагадвае звыклае нам «Савецкае шампанскае».

### Што слухаць?

З'ездзіць у Партугалію і не схадзіць на фаду — гэта злачынства. Фаду — гэта такі музычны стыль, які нарадзіўся ў Лісабоне. Кажуць, што першымі фаду сталі спяваць жонкі рыбакоў, калі іх мужы накіроўваліся ў акіян па новы улоў. Жанчына ніколі не ведала, ці вернуцца яе мужчына, ці ёй наканавана доля ўдавы.

Не абавязкова ведаць партугальскую мову, каб адчуць увесь сум, адзіноту, каханне і жарсць выканаўцаў гэтых рамансаў, што спяваюцца пад партугальскую гітару. Трагічныя песні, як правіла, выконваюць жанчыны, апранутыя ва ўсё чорнае. Калі ж галоўнай зоркі вечара даюць адпачыць, то заспяваць можа хто хочаш — і гаспадар рэстарана, і госці. Бачыў на свае вочы, як кухарка, выцершы рукі аб засалены фартух, ішла ў залу, каб праспяваць іранічную кампазіцыю. Гэта выдатнае шоу пад вячэру.

У Лісабоне кавярняў, дзе вечарамі граюць фаду, шмат, а вось у Порту такія ўстановы яшчэ трэба пашукаць.

Вось так кожны горад беражэ свае традыцыі, сваю асаблівасць. Не тое, што ў Беларусі, дзе ўсе


Мост аўтарства Густава Эйфеля — галоўная славутасць Порту.

падурэўшы, слухаючы адну музыку і будуюць аднолькавыя дамы.

### Небяспекі

Калі ў Лісабоне цямнее, то, гуляючы па вуліцах, даводзіцца адмахвацца ад надакучлівых прадаўцоў марыхуаны. Іх рэальна шмат. Як расказваюць, часта гэта нават не гандляры, а звычайныя разводзілы. Калі нехта набывае «траўку», то аднекуль збоку з'яўляецца трэці чалавек, які кажа: «Я бачыў, што ты купіў. Давай 20 еўра — і я не здам цябе паліцыі». Ёсць нават «ражаныя» паліцыянты, якія таксама спрабуюць развесці даверлівых турыстаў на грошы. Трымайцеся ад гэтых людзей далей. У Порту нічога такога няма.

### Што паглядзець?

Не хочацца дубляваць шматлікія турыстычныя даведнікі, апісваючы прыгажосці Партугаліі. Таму пройдуся літаральна па некалькіх галоўных.

### Мыс Рока

Безумоўна, наймагутнейшае ўражанне застаецца ад наведвання мыса Рока (каба да Рока) — крайняга заходняга пункта на карце Еўропы. Відовішча для медытацыі: глядзець, як хвалі б'юцца аб магутныя скалы ў гэтым месцы, разумеючы, што далей на працягу тысяч кіламетраў толькі вада, а за вадой — ужо Амерыка. У такія хвіліны пачынаеш захапляцца тымі самымі партугальскімі мараплаўцамі, якія адпраўляліся ў незнаёмыя далі на свой страх.

На мысе Рока абавязкова трэба мець з сабой цёплую вопратку. Нават калі навокал тэмпература будзе каля 30 градусаў цяпла, то халодныя акіянічныя вятры ўсё роўна будуць прадзімаць вас наскрозь. А яшчэ кажуць, што тут фантастычныя захады сонца. На жаль, убачыць не давялося.

### Сінтра

За 25 кіламетраў ад Лісабона знаходзіцца старажытная партугальская сталіца Сінтра. Менавіта праз яе трэба дабірацца да мыса Рока. Можна сказаць, што гэта своеасаблівае курортнае мястэчка, дзе любілі жыць партугальскія каралі, захавалася іх рэзідэнцыя, так званы Вясковы палац. Але найбольш турыстаў у Сінтры прываблівають два «палацы ў аблоках», якія знаходзяцца высока ў гарах. Крэпасць маўраў (не трэба забывацца, што некалі Партугалія была пад арабскім панаваннем) сёння напаўразбураная, хаця наплыў турыстаў ад гэтага там не меншае.

А вось палац Пена, які паўстаў у сярэдзіне XIX стагоддзя на базе невялікага манастыра, вельмі радуе наведвальнікаў. Варта адзначыць, што з абодвух збудаванняў адкрываюцца фантастычныя віды на наваколле. Хаця дзеля справядлівасці трэба адзначыць, турыстаў дзяруць як тую ліпку. Напрыклад, аўтобус ад Сінтры да палацаў каштуе проста шалёныя 5 еўра. Атрымліваецца, што з Лісабона да Сінтры танней даехаць. Але пехам увышкі ісці адважваюцца толькі адзінкі.



Рыба — неад'емная частка партугальскай кухні.



Партугальскія студэнты ходзяць на вучобу ў форме, як у Гары Потэра.

### Лісабон і дзень бясплатных музеяў

У Лісабоне кожны знойдзе сабе занятак да густу. Спынюся на адной асаблівасці. Кожную нядзелю да 14:00 уваход на ўсе музеі горада бясплатны. Многія з іх кампактна сканцэнтраваныя ў раёне Белен, што крыху ўбок ад цэнтра. Калі пашанцуе, то можна заспець змену варты ў каралеўскім палацы. Караля ў Партугаліі даўно няма, а варта засталася. Даволі маляўнічае відовішча.

У раёне Белен знаходзяцца славутая вежа і манастыр іеранімітаў — сімвалы горада. Тут жа знаходзіцца дастаткова эксклюзіўны музей карэт. Якіх прыбамбасаў толькі не выдумлялі стагоддзі таму для найлепшых карэт Партугаліі!

Тут жа марскі музей, які не дае забыцца пра вялікае мінулае гэтай краіны. Цяжка паверыць, але некалі менавіта Партугалія была сярод сусветных лідараў. Гэтая краіна вырашала лёсы мільёнаў людзей. У 1494 годзе Партугалія і Каралеўства Кастылія і Арагон (Іспанія) падзялілі свет на зоны ўплыву Тардэсільяскай дамовай. Гэтак Партугаліі дасталася Бразілія — вялізная краіна, якая размаўляе па-партугальску. А яшчэ яны атрымлівалі правы на збор спецый на выспах сённяшняй Інданезіі. А ў тыя гады хто валодаў спецыямі, той валодаў светам. Мускатны арэх і гвоздзік часта ішлі па цане золата.

Яшчэ да сярэдзіны XX стагоддзя Партугалія заставалася вялізнай каланіяльнай дзяржавай. У падпарадкаванні Лісабона знаходзіліся Ангола і Мазамбік у Афрыцы, Макаа і Гоа — у Азіі. Партугальскія свет аграмадны і шматгранны. Партугальская мова з'яўляецца роднай для 220 мільёнаў жыхароў планеты! Гэта пры тым, што ў самой Партугаліі 10,5 мільёна — крыху болей, чым у Беларусі. Яшчэ 20 гадоў назад у Беларусі жыло больш людзей, чым у Партугаліі, але сёння ў Беларусі жыве ўжо на мільён менш, чым там.

З многіх лісабонскіх кватэраў лунаюць ангольскія сцягі, у вялікіх гарадах ёсць традыцыйныя рэстараны былых калоній.

У XX стагоддзі Партугалія перажыла правую дыктатуру Антоніу Салазара і Марсэлу Каэтану. Партугалія захавала нейтралітэт у час Другой сусветнай вайны, а ў 1949 уступіла ў НАТА. Але час дыктатуры стаў перыядам застою, калі Партугалія ператварылася ў адну з найбяднейшых краін Старога Свету. Калі ў пачатку 1970-х узбунтаваліся афрыканскія калоніі, то гэта яшчэ пагоршыла дабрабыт у краіне. 25 красавіка 1974 года так званы «Рух капітанаў» ладзіць бяскроўны вайсковы пераварот, які займее назву «Рэвалюцыя гваздзікоў». У 1976-м краіна пераходзіць да дэмакратыі.

Левыя ідэі ў Партугаліі папулярныя як мала дзе ў Заходняй Еўропе. Камуністычная партыя Партугаліі стабільна атрымлівае месцы ў парламенце. Часта можна сустрэць моладзь з томікамі Маркса і Леніна, графіці з сярпом і молатам. У падпольную — яшчэ за дыктатурай — Камуністычную партыю ўваходзіў адзіны партугальскі лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Жазэ Сарамага. Напрыканцы жыцця ён усё яшчэ называў сябе «лібертарным камуністам».

Але і правыя ідэі па-ранейшаму папулярныя. Напрыклад, Антоніу Салазар перамог у тэлевізійным ток-шоу «Вялікі партугалец». Ён пергнаў Генрыха Мараплаўца і заснавальніка Партугаліі, энергічнага караля Афонсу I. Мабыць, некалі праз шмат гадоў у падобных праграмах шанцы на перамогу будзе мець і Лукашэнка.

### Гімарайнш

Спадчына Салазара і Афонсу I сустракаецца ў невялікім партугальскім горадзе Гімарайнш на поўначы краіны. Гістарычны цэнтр гэтага гарадка занесены ў спіс спадчыны ЮНЕСКА. Мясцовыя сцвярджаюць, што «тут нарадзілася Партугалія». Справа ў тым, што менавіта ў Гімарайншы ў XII стагоддзі была абвешчаная незалежнасць Партугаліі. Фантастыка, але тут захавалася царква Саў-Мігель ду Каштэлу, дзе хрысцілі Афонсу I. Зусім побач ад яе знаходзіцца палац герцагаў Браганса. Гэты масіўны будынак пад сваю рэзідэнцыю выкарыстоўваў Салазар.

Сам Гімарайнш — гэта сапраўдная партугальская пярліна. Сярэднявечны горад з вузкімі вуліцамі, цэрквамі, адкрытымі кавярнямі, дзе забаўныя дзядулі сядзяць пад віньо вэрдэ. Гэткая тыповая Партугалія. Вельмі душэўнае места.

### Порту

У Порту падчас бадзянняў пад вуліцах старога горада, прыгажосць якога не здольны перадаць ніводны фотаапарат, прагулак па мосце Густава Эйфеля, з якога адкрываецца цудоўны від на самы старажытны квартал горада Рыбейру, не забудзьцеся таксама зайсці ў кнігарню *Livraria Lello*. Яе па праву называюць найпрыгажэйшым кніжным магазінам у свеце. Каб крыху адбіцца ад ахвотных туды трапіць, пачалі нават прадаваць білеты — 3 еўра за ўваход. Калі надумаеце набыць кнігу, то гэтыя грошы будуць вылічаныя з цаны кнігі.

Менавіта ў Порту сваю першую кнігу «Гары Потэр і філасофскі камень» пачала пісаць Джаан Роўлінг, калі жыла ў гэтым горадзе і выкладала англійскую мову. І гэта лёгка адчуць. Менавіта *Livraria Lello* стала правобразам бібліятэкі Хогвартса. Ну а форма Школы Вядзьмарства і Чараўніцтва — гэта ж адзін у адзін форма партугальскіх студэнтаў, якія ходзяць у доўгіх чорных мантыях паверх афіцыйных касцюмаў. І апранаюцца падобным чынам сапраўды ўсе. Вось так партугальскія традыцыі Роўлінг па-майстэрску перанесла ў свет Гары Потэра. І гэта невыпадкова — Партугалія натхняе.




Лісабон — гэта горад узгоркаў. Найпрасцей па ім перасоўвацца на трамваях.

# «Дзяліў з маёй сям'ёй яе вялікую нядолю»

Пра Цітуса Далеўскага, героя паўстання 1863, піша **Васіль Герасімчык**.

У адным шэрагу з імем Кастуся Каліноўскага стаіць імя яго сябра і паплечніка — Цітуса Далеўскага, з якім яго яднаді не толькі радыкальныя погляды на сацыяльную справядлівасць. У іх шмат супольнага як у жыцці, так і ў смерці. Абодва нават кахалі жанчын з адной сям'і — Ямантаў.

Цітус нарадзіўся 1 (13) мая 1840 года ў маёнтку Кункулка Лідскага павета. Ён быў малодшым сынам Дамініка і Дамінікі Далеўскіх, якія ўсяго мелі чатырох сыноў і шасцёх дачок. Небагатая шляхецкая сям'я, вядомая на ўсю Вільню, мела арэол патрыётаў зніклай Рэчы Паспалітай. Маці, Дамініцы Далеўскай, было наканавана перажыць шасцярых сваіх дзяцей.

### У цяні старэйшых братоў

Яе старэйшыя сыны, Францішак і Аляксандр, былі арыштаваныя ў 1848 за арганізацыю таемнага таварыства «Саюз літоўскай моладзі». Яны адмовіліся, як сёння б сказалі, супрацоўнічаць са следствам і былі сасланыя ў нерчынскія руднікі. Першапачаткова Францішка прысудзілі да смяротнага пакарання, але ўратавала прадажнасць тагачаснай расійскай карнай сістэмы. Сям'я сабрала грошы на хабар, у выніку чаго Францішак атрымаў 15 гадоў катаргі, а яго брат Аляксандр — 10.

На катарзе Францішак падхапіў тыф, але здолеў яго перамагчы. Слабейшы здароўем Аляксандр прывёз з руднікоў сухоты і ў 1862-м, ужо ў Вільні, сканаў. У тым жа годзе не стала і старэйшага брата Кастуся Каліноўскага — Віктара, памерлага таксама ад сухотаў.

Па вяртанні на Радзіму ў канцы 1850-х браты Далеўскія ўладкоўваюцца ў французскую кампанію па будаўніцтве пецярбургска-варшаўскай чыгункі і зноў гуртуюць таемную арганізацыю з мэтаю вызвалення края ад маскоўскай навалы.

Разам з Якубам Гейштарам Францішак Далеўскі ўзначальвае так званую партыю «белых», якая імкнулася дабіцца дэмакратычных пераўтварэнняў без узброенага паўстання. Яго праціўнікамі былі малодшыя браты Канстанцін і Цітус, якія горача падтрымлівалі «чырвоных» і будучага дыктатара паўстання Кастуся Каліноўскага. Зімою 1863 года, калі паўстанне пачыналася, Кастусь на каленях упрошваў Францішка перайсці на бок «чырвоных», але той не паддаўся.

У чэрвені 1863 Францішка арыштавалі. Другі раз у жыцці ён быў асуджаны на смерць. І зноў сям'я выкупіла яго. За дараванне жыцця яму і яшчэ двум паплечнікам — Аскерку і Яленскаму — Мураўёў атрымаў 15 тысяч рублёў, што было на той час вялізнай сумай.

Пасля 20 гадоў катаргі Францішак у 1883 годзе пераехаў у Варшаву, дзе ў 60 год ажаніўся з маладой Амеліяй Сакалоўскай, ад якой меў чатырох дачок. Працаваў Францішак на чыгунцы і памёр у 1904 годзе, напярэдадні вялікіх зменаў у краі.

**Васіль Герасімчык**

Гісторык, літаратар. Нарадзіўся ў Васілевічах пад Слонімам. Жыве ў Гродне.



**Цітус Далеўскі. 1860-я.**

### Аднакласнік Багушэвіча

Цітус Далеўскі з маленства гадаваўся ў цяні старэйшых братоў, да якіх імкнуўся быць падобным. Таксама ён змалку рыхтаваў сябе для гераічнай барацьбы. У шэсць гадоў, для праверкі сваіх здольнасцяў, Цітус папрасіў сястру, каб тая пракалола яму руку гарачай іголкай. Калі ж тая са слязамі адмовілася, зрабіў гэта сам і пасля доўга цярпеў, не расказваючы бацькам пра траўму. Узгадаваны на прыкладах гераічнай смерці Міхала Валовіча, павешанага ў Гродне ў 1833, і Юзэфа Капусцінскага, павешанага ў Львове ў 1847, малы Цітус папрасіў сяброў, каб тыя падвесілі яго на дзвярной ручцы. І калі хлапчукі пабачылі, як іх сябар задыхаецца, спалохаліся і разбегліся. Цітуса ўратаваў Францішак, які выпадкова завітаў у пакой.

Пасля арышту старэйшых братоў у 1848 іх маці Дамініка паддалася на ўгаворы генерал-губернатара Бібікава і, каб зняць з сям'і таўро здраднікаў, вырашыла аддаць малога Цітуса ў расейскую кадэцкую школу. Хлопчык не супраціўляўся і рыхтаваўся да экзамену. Вучыўся так старанна, што ў хуткім часе ведаў больш, чым магла даць яму школа. Але ніхто не ведаў, што творыцца ў яго душы. Выпраўляючы брата на экзамены, яго сёстры плакалі, але ў адказ пачулі: «Не плачце, хутка вярнуся». Матуля ж знайшла на стале запіску, у якой Цітус пазначыў: «Двух старэйшых братоў пашча дзікага звера ўжо зжэрла, а ты сама трэцяга выпраўляеш яму на спажыву».

Цітус вярнуўся дахаты, мэтаскіравана заваліўшы экзамены. Замест кадэцкай школы, ён з братам Канстанцінам паступіў у Віленскую гімназію, дзе вучыўся ў адным класе з будучымі паўстанцамі Францішкам Багушэвічам, Аляксандрам Міладоўскім і Юліянам Чарноўскім, а яго брат Канстанцін — з Вінцэнтам Віткоўскім і Зыгмунтам Мінейкам.

У час навучання ў гімназіі малодшыя браты Далеўскія праславіліся на ўсю Вільню як плыўцы, уратаваўшы ў Віленцы некалькі чалавек.

### Маскоўскія прыгоды

Пасля сканчэння гімназіі ў 1861 Цітус з Канстанцінам паступілі ў Маскоўскі ўніверсітэт і адразу далучыліся да таемнага студэнцкага таварыства «Огул», створанага па прыкладзе «Саюза літоўскай моладзі», арганізацыі іх старэйшых братоў. Суполка налічвала паўтысячы сяброў, сярод якіх Цітус, 17-гадовы студэнт юрыдычнага факультэта, меў такі аўтарытэт, што аднагалосна быў абраны збіральнікам унёскаў.

Пасля пачатку маніфестацый у Варшаве Цітус наведваецца ў Пецярбург да Зыгмунта Серакоўскага, выязджае на радзіму для атрымання загадаў аб далейшым кірунку працы. Адначасова ў Маскве студэнцкая моладзь вядзе падрыхтоўку да паўстання, якое павінна было ахапіць заходнюю і цэнтральную часткі імперыі ажно да Волгі. Цітус браў удзел у складанні і друку рэвалюцыйных адозваў на рускай мове да салдатаў і мясцовага насельніцтва.

У адказ жандармы пачалі праводзіць у студэнтаўператрусы, шукаючы «зловредные» выданні. Таму ўсе адозвы, што яшчэ былі на руках, склалі ў вялікую скрыню і вырашылі затапіць у канале. Уначы, калі студэнты валаклі тую скрыню па маскоўскіх вуліцах, іх раптам спаткаў патруль. Напалоханыя, хлопцы кінуліся на ўцёкі. Застаўся адзін Цітус. Ён разумеў, да якіх цяжкіх наступстваў прывядзе траплянне ў рукі ўладаў такой колькасці адозваў. Далеўскі здолеў дацягнуць куфар да вады і скінуць у канал. А сам пабег насустрач патрулю і прыкінуўся вар'ятам. Яго арыштавалі, але праз некалькі дзён вызвалілі.

### «Тут смерць непазбежна чакае кожнага з нас»

Калі ў 1863 у Польшчы, Беларусі і Літве пачалося паўстанне, Цітус накіроўваецца ў Вільню, каб на адзін дзень наведаць сям'ю і затым выправіцца ў атрад свайго шваґра — Зыгмунта Серакоўскага. Сястра Апалонія ўзгадвала: «У памяці ў мяне паўстае яшчэ адна карціна, калі Францішак паведаміў нам аб адбыцці Цітуса з Масквы пад чужым імем і яго намеры адправіцца на наступны дзень у атрад Зыгмунта. Моўчкі стаяла маці. Падбеглі сёстры, Юзэфа і Ксавера, молячы, каб не высылалі Цітуса на смерць, Канстанцін жа ўжо там. «Вы не разумееце, — адказаў ён, — на вайне жыццё і смерць залежаць ад лёсу, выпадку. Тут жа смерць непазбежна чакае кожнага з нас». Далеўскія ўсё ж угаварылі брата не ісці ў атрад. Але дзейнасці ён не спыніў, стаўшы адным з самых актыўных паўстанцкіх сувязных і экспедытараў.

Ягоны ж брат Канстанцін пасля паразы Серакоўскага пад Біржамі стварыў асобны атрад. Канстанцін вылучаўся непахісным спакоем, які не знікаў нават пад градам куль. Цяжка паранены, ён, перадаўшы кіраўніцтва атрадам, перайшоў мяжу, але, як рана загаілася, вярнуўся ў край, ахоплены мураўёўскім тэрорам, каб ратаваць рэшткі свайго атрада. У 1871 Канстанцін змагаўся на барыкадах за Парыжскую Камуну і быў расстраляны версальцамі.

Францішак Далеўскі, разумеючы імкненні малодшага брата праявіць сябе, уводзіць Цітуса ў Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы, які ачольваў Якуб Гейштар. Па загадзе апошняга Цітус едзе ў Маскву, каб адгаварыць студэнтаў «Огула» накіроўвацца на радзіму ў паўстанцкія атрады. Але Цітус узяўся без ахвоты — ён, з яго гарачым імкненнем да сацыяльных зменаў, быў бліжэй да «чырвонага» Каліноўскага. З Кастусём Цітус пасля вяртання ў Вільню праводзіць шмат часу. Іх штабам была віленская кватэра сям'і Ямантаў, дочкі якой — Марыя і Алена — сталі нарачонымі Кастуся і Цітуса.

### Друкар, кур'ер, разведчык

Цітусу Далеўскаму даручалі самыя небяспечныя заданні. Ён кіраваў паўстанцкай друкарняй, якую трэба было добра хаваць і ўвесь час перавозіць. Ён займаўся пастаўкаю грошай і зброі ў атрады, інфармаваў пра дыслакацыю варожых войскаў, разам з Каліноўскім складаў інструкцыі і рапарты.

Калі пагроза арышту навісла над Каліноўскім і Далеўскім, ім былі дасланыя з Пецярбурга пашпарты для ўцёкаў за мяжу. Але ні ўгаворы сяброў, ні слёзы на вачах нарачоных не змусілі іх да гэтага. У адказ на просьбу Алены Ямант Цітус толькі сказаў: «Калі пасля маіх уцёкаў нікога не застанецца на маім месцы — я згодны. У адваротным выпадку, калі пасля мяне хтонебудзь можа загінуць — я застаюся, аддаю перавагу загінуць сам». Каліноўскі з Далеўскім дамовіліся: першы, хто з іх будзе арыштаваны, возьме на сябе ўсю адказнасць, каб заблытаць следства і даць час сябрам.

Апошнія месяцы 1863-га Цітус увесь час мяняе кватэры. То на вуліцы Рудніцкай, у доме Свянціцкай, то ў Грагатовічаў, некалькі начэй нават праводзіць на могілках, каля магіл бацькі і брата. Карыстаецца прозвішчамі Парфіяновіч і Маеўскі. Яго многія ведалі асабіста, але ніхто не выдаваў, нягледзячы на абяцаную ўладамі ўзнагароду. Не раз на вуліцы да Цітуса падыходзілі бедныя віленскія габрэі і папяраджвалі пра шпіёнаў. Некалькі разоў ён цудам ратаваўся з-пад носу паліцыі.

Але 20 снежня яго арыштавалі на кватэры ўдавы паэта Уладзіслава Сыракомлі — Паўліны Кандратовіч, дзяцей якой ён вучыў рускай мове. Расійскія жандары даведаліся пра тое, дзе Далеўскі і Каліноўскі, ад арыштаванага паўстанца Людвіга Дзічкоўскага і правакатара Юзафа Кушалеўскага, якія выдалі явачныя кватэры. Каліноўскага ўдалося папярэдзіць, Цітусу ж не пашанцавала.

### «Разаб'ю сабе галаву аб вугал сцяны»

Пры ім знайшлі дакументы на імя Маеўскага. Ён назваўся студэнтам, які зарабляе ўрокамі рускай мовы і дачынення да паўстання не мае. Але пасля вобшуку яго кватэры аднекваіцца не выпадала. У апошнім лісце да сваёй нарачонай Алены Ямант ад 22 снежня Далеўскі запісаў: «Праз здраду доктара Дзічкоўскага да Сыракомлінай быў засланы шпіён. Калі я пайшоў, за мной уварвалася паліцыя і арыштавала ўсіх, хто знаходзіўся ў яе кватэры. У мяне на кватэры знайшлі моцна кампраметуючыя мяне паперы. Першыя два дні зняволення былі яшчэ ніштаватымі, на другі дзень у мяне адабралі ўсё, пакінуўшы ў адной бялізне. Мяне адвялі ў камісію на так званую вочную стаўку з Сыракомлінай. У адказ на яе просьбы і ўгаворы прыйшлося падпісаць яе паказанні, якія канчаткова мяне асуджаюць.

Я заявіў камісіі, што калі мне не палегчаць становішча, то разаб'ю сабе галаву аб вугал сцяны. Мусіць, мой твар быў страшны, вочы гарэлі ад голаду і холаду, твар у брудзе, рукі ў пяску і смецці. Член камісіі спалохана адскочыў. Я вярнуўся ў сваё падзямелле з думкаю пра самагубства, ужо гатовы быў яго здзейсніць, калі мне прынеслі плашч і некалькі збітых дошак.

Гэта была асалода!..

У панядзелак ваенна-палявы суд перашле прысуд па маёй справе Мураўёву — у аўторак ці ў наступныя дні я буду мёртвы.

У жыцці маім я не адчуў шчасця. Дзяліў з маёй сям'ёй яе вялікую нядолю і ўсе маральныя пакуты. Люблю сваю Радзіму і цяпер мне радасна аддаць за яе жыццё. Пакідаю маю сям'ю на апеку майго народа, бо з нас, братоў, ніхто не застанецца жывым».

Цітус не ведаў, што цяжка параненага брата Канстанціна выжыў, а старэйшаму Францішку сям'я купіла права на жыццё.

Свой ліст да Алены Цітус завяршаў наступнымі словамі: «Праз тры дні свята Божага Нараджэння. Прашу цябе разламаць аплатку ў маё імя. Буду з Вамі думкамі, пачуццямі і душою. Матка і Ты, блаславіце мяне на смерць!»

Допыты не мелі плёну. Цітус, акрамя сваёй ролі ў паўстанні, больш ні пра што не паведаміў і Каліноўскага не выдаў.

30 снежня 1863 Цітуса Далеўскага расстралялі на Лукішскай плошчы ў Вільні. Яго сям'ю — маці і сясцёр — выслалі ў розныя губерні Расіі, і ніхто з іх не змог развітацца з Цітусам.

# Неблагія хлопцы, пакуль…

Франц Сіўко. Запісы.

* * *

Толькі цяпер, праз гады, пачынаеш дарэшты ўсведамляць усю жахлівасць паднявольнага стану землякоў-заходнікаў пачатку савецкае эры. Асабліва маладзейшых, тых, што толькі-толькі пачыналі, як, напрыклад, бацькі мае і іх аднагодкі, на той час убірацца ў сілу. Прыйшлі чужаніцы, панакідвалі людзям на шыі хамуты, ператварылі ў рабоў. Спадзяванні, мары, дзедаўскія-бацькоўскія традыцыі і звычкі — усё на злом, у сметніцу, на ўзвей вецер. Узамен — мацюкі, хамства, п'янства. Дык і не дзіва, што ў цесным куточку густанаселеных яшчэ вёсак, бывала, што ні год — самазабойцы-вісельнікі. Смерць быццам і не наўпрост, бо як-ніяк добраахвотная, і ўсё адно пад ціскам абставінаў жорсткае, нечалавечае безнадзейнасці.

* * *

Згадкі гараджанаў пра гады ўласнага маленства для іх вясковага аднагодка — часта карціны іншасвету. Два лады жыцця, дзве абсалютна розныя яго выявы ва ўлонні аднаго і таго ж дзяржаўнага ўладкавання. Але ці варта гэткую велізарную рознасць спісваць на адно толькі ўладкаванне? Што наракаць на хібы ўладкавання, калі чалавек іх прычынаю і з'яўляецца.

* * *

Літаратура факта нярэдка нават больш далёкая ад праўды жыцця, чым расквечаная бурнай фантазіяй аўтара белетрыстыка. Факт накладваецца на факт, а ў выніку праўда калі і атрымліваецца, дык надта ж ужо кульгавая, аднабокая. Чым такая праўда, то лепш ужо складная прыдумка. Тым больш што сучбелліту, як яго абзываюць, відавочна не хапае белетрыстыкі. Затое з каптуром, аж зашмат, — нарысістыкі. Якая, хай сабе і найстыльная, і найвыбітная — аднак жа не мастацкая літаратура, а хутчэй журналістыка. Эгацэнтрычная, і часам адно хіба самім аўтарам і цікавая жвачка.

* * *

Эсэ Л. Гіршовіча «In institiam» («Супраць справядлівасці») у «Іностранной літературе». Дасціпная, як заўсёды ў гэтага аўтара, чытанка, хоць месцамі крыху і цьмянаватая. Да таго моманту прывабная, як пачынаецца жаванне гэтак сёння моднай тэзы «пакаранне смерцю — гэта, безумоўна, дрэнна». З аднаго боку, быццам аргументавана, з другога — пуста і тхліва, як у парожняй дзяжы з-пад селядца. Так шмат у развагах аўтара чалавекалюбнае слушнасці, і так яна, тая салодкая слушнасць, нагадвае манераю падачы запабежлівыя разважанні суайчыннікаў пра нафту і газ падчас колішняга рэферэндуму аб лёсе Саюза і роднай мовы, што і ахвота чытаць неяк увобміг знікае.

* * *

Калісьці таксама хацелася выгукнуць: ай ды Джойс, ай ды сукін сын! А сёння ўжо такое эмацыйнае сведчанне прыязнасці да аўтара іначай як жаданне быць залічаным да сакрэтаў звышвысокага з чыіх бы то ні было вуснаў не ўспрымаецца. Канечне, у ложку пагартаць перад сном тыя дублінскія блуканні нябляга, але чытаць ад пачатку да канца — не, ужо дзякуй. І апошніх акордаў фізіялагічна-занатурлівага патоку свядомасці бздлівай Молі Блум дастаткова.

* * *

Напэўна, ніводнае кніжкі гэтак утрапёна, з гэткаю асалодаю не чыталася, як калісьці, год трыццаць таму, «Кірмаш выхвальства» Тэкерэя. Уранні прачнешся, і першае, што ў галаў прыходзіць, — пра тую чытанку міжвольная згадка. Да таго дайшло, памятаецца, што, перш чым адкласці фаліянт да наступнае раніцы, непрачытаныя старонкі лічыў: каб жа хоць надалей хапіла, хаця б не скончылася дачасна, перш чым душа здаволіцца.

А вось сярод твораў літаратуры, што так і не асіліў за жыццё, — «Стары і мора». Сцверджанне сябе праз перамогу над іншаю, хай сабе і такою бязмоўнаю, як рыбіна, істотаю — зусім не маё. Гвалціць жа сябе, пнучыся не выпасці з шэрагаў гурманаў ад літаратуры, — ці варта высілкаў?

* * *

Прорва паміж прадстаўнікамі уладнага бамонду і іхнімі рускамоўнымі палітычнымі, нават і самымі быццам бы непрымірымымі, апанентамі не такая ўжо велізарная, калі глядзець на яе ў пэўным ракурсе. Агульную светапоглядную рысу — глыбіннае, унутранае русафільства, — што першых, што другіх, як бы яны ад яго самі прылюдна ні адхрышчваліся, — з вагаў не скінеш. Гэта найперш і менавіта тое сутнаснае, што дае падставу нават не самым упёртым нацыяналістам не лічыць ні тых, ні гэтых за сваіх. Не свае. Калі і не дарэшты чужыя, дык усё адно — чужаватыя. І няхай пырскаюць слінаю, даводзячы сваю дэмакратычную выключнасць, а разам тваю зацятую абмежаванасць, няхай злуюць на такую пазіцыю — іх справа.

* * *

Як добра, што імпэтам да вершаскладання Бог не адарыў. З такім прозвішчам ды ў паэты — вось быў бы анекдот. А як пры прозе, дык быццам бы і нічога, і можна цярпець. У спалучэнні з нямецкім імем эклектычна, канечне, ды дзе там той гармоніі на ўсіх набярэшся. Тым больш, што і горш у людзей бывае. Вунь у аднаго крытыка, на шматгадовае даўніны допіс якога датычна майго сціплага літдаробку не так даўно натыкнуўся ў сецыве, наогул прозвішча — дзіва дзіўнае. Як на мой густ, дык і зусім са званнем беларускага крытыка прозвішча несумяшчальнае, бо нядобрыя, звязаныя з дзеямі сумнавядомых Бэндэ ці Кучара асацыяцыі выклікае. Гэтак не стары яшчэ чалавек з-за дробязяў раздражняецца, гэтак зацята дурноццем на мяжы даносаў няшчасную айчынную дэмакратычную медыяпрастору поўніць.

* * *

Лёкайства — гэта не толькі перад уладаю поўзанне. Але і перад любою сілаю, перад нахабствам, перад уганараванасцю таксама. Перад апошнім — асабліва брыдкае, бо, як правіла, добраахвотнае. Прыроджанае. Магчыма, спадчыннае, а магчыма — выхаванае, але гэта ўжо не так і важна.

* * *

У Караткевіча: «Чорны... памёр у каменных джунглях, змучаны безграшовасцю, крытыкамі, уціскам цэнзуры, знявечаны фізічна трыццаць сёмым годам — хай гэтаму году і тым, хто рабілі гэты здзек з сапраўдных, — вечная ганьба і... помста». Ну як не паважаць Уладзіміра Сямёнавіча на фоне сённяшніх крывадушных заклікаў да даравання!

* * *

Караткевіч у адным з дзённікавых запісаў 1966 года: «... Так праходзілі дні. Кожны, чорт яго бяры, як крыж. Пэўна, здохну раней часу ад разліцця жоўці або інфаркту». У сувязі з гэтым узгадаліся словы блізкага сябра пісьменніка, актора Коласаўскага тэатра Андрэя Лабанка падчас аднае літаратурнае юбілейнае (ці не да 70-годдзя Караткевіча) імпрэзы: «Ваярыў-ваярыў Уладзімір Сямёнавіч за гістарычную праўду, аж пакуль не здох дачасна!» Як гэта тады ўсіх уразіла-ўскалыхнула! Такое сказаць пра Караткевіча: здох! Але ж ведаў сябрук, што казаў, і ведаў, што ўзгадваць такое — не абраза памяці, не святатацтва, а толькі выраз належнага, з прысмакам непазбыўнае горычы, шкадавання. І расчаравання, напэўна.

* * *

Надзея надзеяй, а становішча з моваю, безумоўна, жахлівае. Хто працаваў калі-небудзь са студэнтамі нефілалагічных спецыяльнасцяў, той ведае ступень масавасці з'явы. Паўсеместра марнуецца на тое, каб збольшага пераадолець супраціў, непрыманне, а то і проста нянавісць. І гэта — пры выкладчыку, які (прашу прабачэння за нясціпласць) умее з моладдзю працаваць. І гэта — маладыя, на адрас якіх мы ўсё нейкія спадзевы спелім ды якіх паблажлівымі эківокамі адорваем. А разам з тымі спадзевамі ды эківокамі карт-бланш на ігнараванне грамадзянскага абавязку выдаем. І маладым, і сямейнікам сваім, і сабе самім, і г.д. — да бясконцасці.

* * *

Агульнавядома, што адною з прычын занядбання нашай мовы пасля шчаслівага перыяду бытавання ў ВКЛ у ролі дзяржаўнай з'яўлялася выцясненне яе ў вёску ў выніку засялення гарадоў польскім і яўрэйскім насельніцтвам і праз гэта — займенне статуса непрэстыжнай. Неяк вельмі ж яскрава нагадала пра тое нядаўняя паездка на літвыступленне ў Сянно. Усюды па школах — мова беларуская, а пад'едзеш бліжэй да абласнога цэнтра — і як у іншую дзяржаву трапляеш, гэтак усё зрусіфікавана. І думаеш міжволі: хіба вяскоўцу, хай сабе і адукаванаму, у нягалоснай спрэчцы за мову з віцебскім баявітым філістэрам, што і законы ды правы свае гэтак дасканала ведае, і наогул, як кажуць, — «весь из себя», выйсці калі-небудзь пераможцам?

* * *

Неблагія хлопцы — пакуль на адлегласці ад улады. А як толькі трапяць ва ўладныя калідоры, так і пачнуць ператварацца ў пачвараў са свінскімі замашкамі. Пачнуць непазбежна, бо такі закон прыроды: належаць да чагосьці і адначасова не быць яго часткаю немагчыма. Нялюдскага, свінскага, якога адвеку так шмат у нашым грамадскім уладкаванні, у тым ліку.

* * *

Так доўга папікалі 85-гадовыя бацькі 60-гадовую дачку яе хваробаю, што аднаго разу, адчуваючы ўжо блізкі канец, не вытрымала, на чарговы закід старых, хто ж, маўляў, нас, як, барані Бог, раней за нас памрэш, пахавае, адказала: «А не трэба так доўга жыць!» І іх зразумець можна, і яе асуджаць не выпадае.

* * *

У прыналежнасці да д'ябальскага атачэння ніхто прылюдна прызнацца не хоча. Нават калі па вушы ў тым атачэнні захрас. Нават калі даўно ўжо не тое што вухам ці вокам або языком — рогам унтэр-прышыбееўшчыны да ганебнага хаўрусу прычыніўся. Быць часткаю сілы, нават і відавочна гнюснай, — з задавальненнем, вось толькі каб як-небудзь незаўважна, бокам, быццам ненаўмысна, быццам з-пад палкі, з-пад прымусу. Мілая асаблівасць калектыўнае свядомасці сучаснага беларуса. Другая, не менш мілая, — імпэту прылюдна ўслаўляць высокія маральныя каштоўнасці, а тым часам употай сябе ды сваіх любімых чадаў ад наследавання тым каштоўнасцям вызваляць.

* * *

У дзённіку за 1896 год Чэхаў узгадвае Фета, які, праязджаючы ў Маскве па Махавой, апускаў у карэце акно і пляваў на ўніверсітэт. Маўляў, «харкне і плюне: цьфу!» Фурман так прывык да гэтага, што кожны раз, едучы паўз універсітэт, знарок спыняўся.

Падобнае давялося чуць год дваццаць таму ў Віцебску датычна будынка аблвыканкама. Толькі не пляваў чалавек на той будынак, а адварочваўся ад яго. Такая, маўляў, гіда, такое паскудства гэты выканкам, што лепш бы вочы яго не бачылі.

* * *

Калі знакі прыпынку — сродак сувязі слоў і словазлучэнняў у сказе, то ў Цвятаевай яны — часта сродак сувязі моўных адзінак і іх формаў, лагічна і сэнсава несумяшчальных. Рамесніцтва найвышэйшага кшталту, якое не на шаманстве грунтуецца, а на бездакорным узроўні моўнае інтуіцыі. Паказчык якой усё-такі — найперш дасканаласць сінтаксісу, а потым ужо ўсяго астатняга.

* * *

Усё мяняецца. Вось Зносак купалаўскі, Мікіта. Сёння ён, канечне ж, інакшы, як быў на пачатку мінулага стагоддзя. І мовамі, у тым ліку і сваёй, можа куды як дасканала валодаць, і з выгляду быць гэтак упаўне еўрапейцам, і нават акапацца ў творчасці — да прыгожага пісьменства мець сякое-такое, а то і самае непасрэднае дачыненне. А сутнасць — тая самая, несмяротная зносакаўская. Тая, што нават калі і не дэкларуецца наўпрост, міжволі з закуткоў душы не-не ды і вытыркаецца.

* * *

Дзеці на двары пры снегавіках — сведчанне адвечнага імкнення чалавека да стваральнага пачатку. Лепяць сабе і не думаюць перайманца меркаваннем нейкае там адцягнена-абстрактнае мэтазгоднасці. Лепяць, ахопленыя імпэтам штосьці вартае пабудаваць уласнымі рукамі, — немудрагелісты, як сама прырода наўкола, занятак.




**Новая кніга прозы Франца Сіўко** называецца «Плебейскія гульні». У ёй — тры аповесці: «Цымант», «Дзве вясны дзяцей Прыяпа» і «Плебейскія гульні». Набыць яе можна ў мінскай кнігарні «Логвінаў» (пр.Незалежнасці, 37а).



**Франц Сіўко** пісьменнік. Нар. у 1953 у вёсцы Вята на Мёршчыне. Аўтар дзесяці кніг прозы. Жыве ў Віцебску.


СЯРГЕЙ ГАПОН

**Інвалідаў-калясачнікаў у святочных касцюмах не прапусцілі на шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурак 25 снежня ў Мінску. Не захацелі «псаваць карцінку»...**


РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

**Сям'я Уладыкаў з Вілейкі зрабіла печку-вышыванку. «Вышыванку на печы прапанаваў зрабіць тата, ён некалькі месяцаў выношваў гэтую ідэю. Марыў пра вышыванку, — кажа Таццяна Уладыка. — Увесь рамонт печкі заняў тыдзень, саму вышыванку, эскіз якой сцягнулі з інтэрнэту, наносілі на печку тры дні».**



**Часопіс National Geographic склаў Топ-20 здымкаў прыроды за 2015 год. Адно з фота: ласка асядлала дзятла.**



**Папулярная тэлевядучая і цыркавая акцёрка Ганна Бонд знялася ў эратычнай фотасесіі для часопіса «Большой». Летась Ганна Бонд, якая робіць інтэрнэт-перадачу для футбольнага клуба БАТЭ, абяцала раздзецца і прабегчыся па «Барысаў-Арэне» ў выпадку перамогі каманды над «Барселонай». Аднак беларускі чэмпіён саступіў у той гульні 0:2.**



**2 студзеня ў Эстоніі адбылася цырымонія шлюбу прэзідэнта Тоомаса Хендрыка Ільвеса і кіраўніцы латвійскай службы кібербяспекі Евы Купцэ. Ева Купцэ ўзяла прозвішча мужа і афіцыйна стала першай лэдзі Эстоніі. На мерапрыемства прыбыло прыкладна 40 гасцей. Цырымонія праходзіла ў царкве Святой Ганны ў Халістэ. Гэтая царква размяшчаецца на поўдні краіны непадалёк ад мяжы з Латвіяй і лічыцца адной з найбольш прыгожых у Эстоніі.**

## ☺ Анекдоты і жарты

Масавымі абмаражэннямі скончыўся мітынг зялёных супраць глабальнага пацяплення.

* * *

Вялікі дзякуй суседзям за феерверкі. Як добра, што ў іх ёсць грошы на маё захапленне.

* * *

Дарагая рэдакцыя! Адкажыце мне, калі ласка: Дзед Мароз усё ж такі ёсць ці яго няма? А то мама кажа, што ёсць, а жонка смяецца.

* * *

– Каханая, глядзі, сняжок выпаў пад Новы год. Як ты і хацела.

– Але я хацела айфон.

– Сняжынка да сняжынкі. Вельмі прыгожа.

* * *

Выпадак у рыбным аддзеле.

Прадаўшчыца:

– Тадэвуш Баляслававіч, забярыце свайго ката ад вітрыны. Годзе яму ўжо дэманстратыўна прытомнасць страчваць.

* * *

– Ды хто мы такія, каб супрацьстаяць сілам прыроды?

– Начальнік камунальнай гаспадаркі, а можа, усё-ткі пачнём прыбіраць снег з вуліц нашага горада?..

* * *

– Мне тата абяцаў, калі я чвэрць без троек скончу, ён піць кіне!

– І што?

– Вунь бегае радасны — у мяне тройка па хіміі...

## «НН» сто гадоў з вамі

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.
Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.
Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.
Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

**Максім Багдановіч**
**«НН». №1. 1911.**

«Газпром» святкуе атрыманне кантролю над «Белтрансгазам». Гэтая непразрыстая ўгода, кошт якой не быў абвешчаны, аплачваецца пастаўкамі газу па цане, ніжэйшай за рынкавую, а таксама бартарам і спісаннем пазык. Беларускі ўрад, ад якога не залежыць нічога, і прэзідэнт, ад якога залежыць усё, маўчаць.

**«НН». №1. 2006.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 05.01.2016.
Замова №12.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15048